



ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 50 Н. ФЭН.

**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19. Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 д. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай аднаго нумару газэты каштуе дадаткова:** у ЗША і Канаду — 40 фэнігаў (10 ам. цэнт.); у Аргентыну — 70 фэн. (17 ам. ц.); у Аўстралію — 90 фэн. (22 ам. ц.). Падвойныя нумары каштуюць падвойна.

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna", Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND"

THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND"

№ 14-15 (400-401) — Вялікдень 1958 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 12


# *Божай Міласьцю*

***Сьвяшчэнны Сабор Япіскапаў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы на Чужыне***

**ДА ЎСЯЧЭСНАГА ДУХАВЕНСТВА, ПРЭПАДОБНАГА МАНАСТВА Й УСІХ БАГАЛЮБІВЫХ ВЕРНІКАЎ НАШЫХ НА ЧУЖЫНЕ Й НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ ПРАБЫВАЮЧЫХ.**

## *Вялікоднае Архіпастырскае Пасланьне*

## *Хрыстос Уваскрос!*

«Ангел сьветлы ўсклікнуў Жонам: перастаньце плакаць, бо ХРЫСТОС УВАСКРОС! (Вялікодны Канон).



**УЛЮБЛЕНЫЯ Й ДАРАГІЯ БРАТЫ Й СЁСТРЫ!**

Цяжкія пакуты перажыў Спасіцель наш у часе суду над Ім, асабліва-ж на Галгофе. Над Ім насьмяхаліся, Яго білі, урэшце ўкрыжавалі й у Гроб замуравалі. Ворагі Яго цешыліся: няма ўжо Хрыста, Ён памёр! А хто можа апісаць тыя нявымоўныя цярпеньні, якія перажывала Ягоная Прачыстая Маці Божая як пад Крыжам, так і цяпер! А сьв. Апосталы! А багаслаўленыя Ім Жоны Міраносіцы! Няма ўжо іхнага любага Вучыцеля: Ён памёр! «Сын Чалавечы будзе выданы ў рукі людзкія, і засудзяць Яго, і ўкрыжуюць, і на трэйці Дзень Уваскрэсьне» (Мц. 17, 22—23), ня раз гаварыў ім Хрыстос. Але які розум людзкі мог зразумець такое Боскае Адкрыцьцё? Не разумелі гэтага й сьв. Апосталы й слаўныя Жоны, і таму яны цяпер моцна сумавалі й плакалі.

Вось ужо й раніца трэйцяга дня па сьмерці Яго. Узыйшло сонейка й таямніча азалаціла ўсё кругом, як бы прамаўляючы да сумуючых: Радуйцеся! Ён ужо ўстаў з Гробу! Але не заўважаюць гэтага ў сваім горы Жоны Міраносіцы, што сьпяшаюцца да Гробу Яго. І вось, раптам, яны тут бачаць сьветлага Ангела й чуюць словы яго: «Вы шукаеце Ісуса ўкрыжаванага. Яго няма тут: Ён уваскрос!» Хрыстос уваскрос! О, што за радасьць! Гэтую радасьць сваю яны паўстрымаць ня могуць! Яны бягуць да сьв. Апосталаў, і натхнёна ўсклікаюць: Хрыстос уваскрос!

Тымчасам Ангел ужо зьявіўся Прачыстай Маці Божай, і апавясьціў Ёй: «Радуйся, Дзева, радуйся! Радуйся багаслаўленая, радуйся прэпраслаўленая: Твой бо Сын уваскрос на трэйці дзень ад гробу!» (Вялікодная Сьціхіра). І Марыя Магдаліна ўжо пабачыла Яго, і натхнёна ўсклікнула: Раввуні — Вучыцелю! (Іо. 20, 16). Ужо Яго пабачылі й усе іншыя Жоны Міраносіцы, і пачулі Ягонае прывітаньне: Радуйцеся! І абнялі ногі Яго й пакланіліся Яму (Мц. 28, 9). Ужо прыбеглі ў Ерусалім і Апосталы Клеопа й Лука з Эмаусу й апавясьцілі адзінаццацём і быўшым зь імі, што Хрыстос уваскрос! Яны бачылі Яго й гаварылі зь Ім! Хрыстос запраўды уваскрос, адказалі ім іншыя Апосталы. Яго ўжо пабачыў і сьв. Пётра. А калі яны так цешыліся й радаваліся. раптам сярод іх стаў Хрыстос і сказаў ім: Мір вам! (Лк. 24, 33—36).

І зьніклі ўжо гора й бяда, страх і сумлівы сьв. Апосталаў. Сэрцы іхныя ўжо напоўніліся супакоем, нязломнаю Вераю бясконцаю радасьцю й надзеяй на Уваскрасеньне ўсіх верующых у Хрыста, бо Ён, як Першы з нас, уваскрос! (І Кар. 15, 20). Гэта быў першы Вялікдзень на зямлі. Вялікдзень малой грамады разам з Уваскросшым Хрыстом! Толькі цяпер Апосталы зразумелі словы Яго: на трэйці дзень уваскрэсну! І ўжо гатовыя былі з радасьцю памерці за Яго, бо-ж сьмерці ўжо няма: Хрыстос Сваею сьмерцю зьнішчыў яе, дараваўшы нам жыцьцё вечнае!

І панясьлі яны гэтую радасную вестку па ўсей зямлі: Хрыстос уваскрос! І мы ўваскрэсьнем: «Бо, як у Адаме ўсе паміраюць, так у Хрысьце ўсе ўваскрэснуць» (І Кар. 15, 22). Вось чаму Вялікдзень нашае Сьвята над Сьвятамі! Вось чаму пры сьпеве: Хрыстос Уваскрос із мертвых, сьмерцю сьмерць паканаў, і тым што ў грабох, жыцьцё дараваў, мы ня можам паўстрымаць радасьці свае! Душы нашыя, падобна Марыі Магдаліне, сьпяшаць падзяліцца ёю зь іншымі: для іх ужо ўсе любыя, яны кажнага абыймаюць, цалуюць, кажнаму апавяшчаюць: Хрыстос Уваскрос! Вось чаму нашыя вёскі на Вялікдзень былі поўныя радасьці й весялосьці! І хто хоць раз перажыў гэтую радасьць, той ужо ніколі не забудзе яе, бо вочы душы яго, падобна сьв. Апосталам, пабачылі Уваскросшага Хрыста! І падобна ім цьвёрда ўверавалі, што запраўды Ён нашае Уваскрасеньне й Жыцьцё (Іо. 11, 25).

Таму ўжо няма бяды, няма смутку, бо-ж Ягонае Уваскрасеньне аднačасна перамога Дабра над злом, Праўды над крыўдаю, Свабоды над няволяю! Таму таксама ўсе тыя нашыя суродзічы, што церпяць і пакутуюць удома, на катаргах і высылках, і яны на Вялікдзень радуюцца й весяляцца, і яны пяюць: Хрыстос Уваскрос! Алелюя! Бо й яны разам з прарокам прамаўляюць: «Спадзявайся на Госпада, ідзі за Ім, дык узвысіць цябе, каб ты ўзяў зямлю ў валаданьне, і бязбожных загубу ты ўбачыш» (Пс. 38, 34). Так, любыя дзеці нашыя, асабліва гэты Вялікдзень радасны для нас, бо-ж мы сьвяткуем яго тут ужо ў сваіх Храмах Божых, а гэтую Ласку Сваю Спасіцель наш паслаў нам, каб мы належна прыгатавалі сябе да сьв. Храмаў на сваей вольнай Бацькаўшчыне, дзень свабоды якое ўжо блізка! Закончыцца галгофа нашая неўзабаве, таму ўсе, усе радуйцеся й весялецеся!

Усячэсныя Айцы й увесь наш Беларускі Народзе! Зь Вялікім, Сьветлым і Радасным Сьвятам, зь перамогаю й трыумфам Неба й зямлі — Уваскрасеньнем Хрыстовым, зь Вераю й Любоўю вітаем усіх вас! Ужо ўзыходзіць Сонца Праўды й Свабоды над пакутнаю й слаўнаю Зямелькаю нашаю! Ужо Уваскросшы Спасіцель наш прамаўляе да нас: толькі веруйце, ані не сумлявайцеся, і Ласка Мая вам памножыцца: уваскрэсьне й вашая пакутная, у гроб паложаная, любая Маці-Беларусь!

І адзінымі вуснамі й адзіным сэрцам адкажам Яму: так, Госпадзі, мы веруем, цьвёрда веруем, бо Ты запраўды уваскрос!

Ласка й Мір Госпада нашага Ісуса Хрыста, Любоў Бога й Айца, і Прычасьце Сьвятога Духа будуць з усімі вамі. Амінь.

**Пакорны Архіяпіскап СЯРГЕЙ**
Галава Сьвяшчэннага Сабору Япіскапаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы

**Пакорны Архіяпіскап ВАСІЛЬ**
Сакратар Сьвяшчэннага Сабору Япіскапаў БАПЦ на Чужыне.

Дана Году Божага 1958
месяца красавіка
Аўстралія-Амэрыка.

# У дзень найвялікшага сьвята — Вялікадня

Вялікдзень! Ня прыпадкова й не здарма сьвята Хрыстовага Ўваскрашэньня беларускі народ назваў Вялікаднем. У народнай сьведамасьці, адчуваньні й выабражэньні дзень гэты зьяўляецца ўзапраўды Вялікім Днём, найвялікшым спасярод усіх дзён цэлага году. У той час, калі ў народаў Захаду найвялікшым і найурачысьцей сьвяткаваным гадавым сьвятам бывае Дзень Хрыстовага Нараджэньня — Каляды, у народу беларускага, хаця й гэтае сьвята сьвяткуецца вельмі ўрачыста, пяршынство ўсё-ж аддаецца Вялікадню. І гэта мае сваю прычыну і глыбокі сэнс: рэлігійны, народна-традыцыйны і, у сяньняшнім нашым палажэньні, таксама нацыянальна сымбалічны.

Збаўца сьвету Хрыстос-Бог стаўся чалавекам, каб сваімі чалавечымі мукамі й сьмерцяй на крыжы адкупіць грахі ўсяе людзкасьці, а праз сваё цудоўнае зьмёртвыхустаньне забясьпечыць нам жыцьцё вечнае. Таму й вялікодная малітва-песьня, сьпяваная на Вялікдзень, абвяшчае людзям радасную навіну: Хрыстос уваскрос із мёртвых, сьмерцю сьмерць перамог і тым, што знаходзіліся ў гробе, дараваў жыцьцё вечнае.

Гэтыя цудоўныя словы вялікоднае малітвы й адкрываюць перад намі ўвесь глыбокі рэлігійны сэнс вялікоднага сьвята. Бо што-ж можа быць большай ахвярай, чымся дабравольна выбраная мучаніцкая сьмерць, каб ёю адкупіць грахі ўсіх людзей на зямлі й даць ім жыцьцё вечнае ў небе? А гэтую-ж крывавую ахвяру для грэшнага сьвету зрабіў ня звычайны чалавек, але Ўсемагутны Бог, які стаўся чалавекам і прыняў на сябе нявымоўныя мукі для збаўленьня й жыцьця вечнага роду людзкога.

Таму сьвята Хрыстовага Ўваскрашэньня, цудоўнае перамогі сьмерці сьмерцяй адкрывае перад намі вялікую несьмяротную праўду Хрыстовае навукі. З гэтае навукі й выплываюць недасягальныя ў сваей велічы й шляхотнасьці ідэі хрысьціянскае рэлігіі: бязьмежная любоў бліжняга, ідэя прабачэньня дазнаных ад людзей крыўдаў, ідэя самапасьвячэньня для бліжняга. На гэтых ідэях, як на непарушным фундаманьце, аснованае хрысьціянства. А ўсе гэтыя ідэі ўгрунтаваў сярод людзей сам Хрыстос-Бог на прыкладзе свайго собскага чалавечага жыцьця й бязьмежнае ахвяры сваёй мучаніцкай сьмерці. Вось ў гэтым і заключаецца бязьмежная веліч Хрыстовае ахвяры для людзей і ўсё найвялікшае людзкое шчасьце, якім ёсьць духовае жыцьцё вечнае пасьля фізычнае сьмерці.

Кажнае вялікае рэлігійнае сьвята сярод людзей і народаў звычайна выходзіць з чыста рэлігійных рамаў і знаходзіць сваё яркае адбіцьцё ў народным быце, звычаях, абрадах і наагул у народным сьветаадчуваньні. У беларускай народнай традыцыі Вялікадзень ад ня-


**(Заканчэньне на 2-ой бачыне)**

# З пазыцыі сілы й з пазыцыі слабасьці

Як толькі Заходняя Нямеччына здабыла поўную незалежнасьць, у ёй бесьперапынна адбываецца змаганьне дзьвюх палітычных канцэпцыяў у справе задзіночаньня разрэзанай на дзьве часьці краіны. З аднаго боку, гэта канцэпцыя сілы й цеснае сувязі з Захадам, у супольным высілку зь якім нямецкія палітыкі ўрадавае кааліцыі на чале з канцлерам Адэнаўэрам бачаць адзіную магчымасьць дасягненьня задзіночаньня Нямеччыны. З другога боку — гэта, калі так выразіцца, канцэпцыя слабасьці, уступак Саветам і ізаляцыі ад заходняе палітыкі, галоўным чынам ад акцыі ўзбраеньня ў рамах НАТО, што, на думку сацыял-дэмакратычнай апазыцыі, можа прывесьці да гэтае мэты задзіночаньня.

Вакол гэтае кардынальнае праблемы ўсьцяж вядзецца ў Заходняй Нямеччыне палітычнае змаганьне, якое паступова завайстраецца. Апошняя чатырохдзённая дэбата у заходнянямецкім парляманьце над замежнай палітыкай, якая цягнулася з двухдзённым перарывам ад 20 да 25 сакавіка сёлета, сталася кульмінацыйным пунктам гэтага змаганьня.

Урадавая кааліцыя станоўка й навважана выказвалася за ўзбраеньне нямецкае арміі тактычным атамным аружжам і за актыўнае палітычнае й вайсковае супрацоўніцтва з Захадам у рамах Атлянтычнага пакту. Сацыял-дэмакратычная апазыцыя выступала супраць урадавай кааліцыі, цьвердзячы, што атамнае ўзбраеньне нямецкае арміі й наагул поўнае супрацоўніцтва з НАТО, у выпадку вайны, зробіць Нямеччыну, усходнюю, як і заходнюю, галоўнай мэтай атамнай адплаты, а з другога боку перачыркне ўсе магчымасьці дагаварыцца з Савецкім Саюзам у справе задзіночаньня Нямеччыны.

Парляманцкая дыскусія ў гэтай справе вылілася ў напружаную вайну нэрваў і адбілася звонкім рэхам усяе нямецкае грамадзкасьці. Сама нямецкая прэса сьцьвярджае, што пасьля апошняе вайны яшчэ ня было ў нямецкім парляманьне такой напружанай і бурлівай атмасфэры, якая гранічыла з драматычнымі мамэнтамі, як падчас успомненых чатырох дзён дыскусіі над замежнай палітыкай і пытаньнямі атамнага ўзбраеньня. Каб уявіць сабе гэтую напружаную атмасфэру спрэчак і зацятасьць паасобных абароньнікаў сваіх тэзаў, хопіць коратка спыніцца над найважнейшымі выступленьнямі ў вапошнім дні дэбатаў 25 сакавіка.

Лідэр апазыцыі Эрых Оленгаўэр, між іншага, асьветчыў, што СПД (сацыял-дэмакратычная партыя) будзе ўсімі даступнымі ёй спосабамі перашкаджаць рэалізацыі пастановы аб атамным узбраеньні, якая ў канцы дэбаты будзе прынятая бальшынёй урадавых партыяў. Оленгаўэр паведаміў, што першым гэтага мерапрыемствам будзе праект закону, унесены ягонай партыяй, аб правядзеньні народнага плебісцыту ў Заходняй Нямеччыне, у якім само насельніцтва павінна выказацца, хоча яно атамнага ўзбраеньня, ці ня хоча.

Канцлер Адэнаўэр адказаў Оленгаўэру тэзай, што Саветы і цяпер, як усьцяж перад гэтым, толькі спэкулююць, каб зламаць адзінства Захаду. Адсутнасьць адзінства ў Бундэстагу ў гэтай справе асьмельвае Савецкі Саюз прадаўжаць такую спэкуляцыйную палітыку й ігнараваць справу вызваленьня ўсходняй зоны Нямеччыны. **«Адзінства і сіла і надалей зьяўляецца перадумовамі для перагавораў з Масквой»**, — закончыў канцлер Адэнаўэр.

Міністар замежных справаў фон Брэнтано падчыркнуў, што дамаганьне вольных выбараў у Ўсходняй Нямеччыне павінна быць пастаўленае на самым пачатку перад усімі іншымі справамі ў пытаньні задзіночаньня Нямеччыны. Зьвяртаючыся пад адрасам апазыцыі, Брэнтано заявіў, што калі цяпер гаворыцца, каб пытаньне вольных выбараў было пастаўленае дзе-небудзь у ходзе задзіночаньня або навет у канцы працэсу

**(Заканчэньне на 3-яй бачыне)**

# Да пытаньня дзяржаўнасьці Беларусі

Адзначаючы чарговыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, магчыма некаторыя з чытачоў «Бацькаўшчыны» разважаюць над пытаньнем: ці існуе беларуская дзяржава? Гэтае пытаньне закранаяся ўжо раней на бачынах «Б-ны», праўда, найчасьцей зусім пабочна, і таму, што яно зьяўляецца даволі заблытаным і важным, варта яго аднавіць сабе ў памяці. Затрымаемся над ім коратка і спрабуем прааналізаваць яго ў галоўных рысах.

Паколькі дзяржава ёсьць арганізаванай палітычна-грамадзкай адзінкай, якая ўяўляе сабой складовую частку сусьветнай грамадзкасьці, пытаньне гэтае трэба разглядаць у міжнародным маштабе. Практыка міжнародных дачыненьняў стварыла пэўныя традыцыі і прынцыпы, якія, папоўненыя міжнароднымі пагадненьнямі, ствараюць тое, што ад некаторага часу прынята называць міжнародным правам. Міжнароднае права шмат розьніцца ад права нацыянальнага; яно менш распрацаванае, бо няма ніякіх міжнародных законадаўчых органаў, якія-б гэтым спэцыяльна займаліся, а, што яшчэ больш важнае — міжнародная грамадзкасьць ня мае сусьветных органаў, якія-б дапільноўвалі, каб гэтага права ўсе прытрымоўваліся. Тым ня менш, яно зьяўляецца адзіным прынятым міжнародным крытэрыем для разьвязваньня падобных пытаньняў.

Вось-жа, паводля элемэнтарных, найбольш пашыраных у сучасны мамэнт паняцьцяў міжнароднага права, для існаваньня дзяржавы патрэбныя наступныя элемэнты: насельніцтва, тэрыторыя, улада, і магчымасьць уступаць у беспасярэдныя дыпляматычныя дачыненьні зь іншымі дзяржавамі. У выпадку Беларусі, наяўнасьць двух першых элемэнтаў ня выклікае ніякіх засьцярогаў: беларускі народ камплектнай масай ад вякоў засяляе азначаную тэрыторыю. Засьцярогі паўстаюць у выпадку двух другіх элемэнтаў, бо яны цесна зьвязаныя з паняцьцямі незалежнасьці, сувэрэннасьці, і неабходнасьцю прызнаньня пэўнай дзяржавы іншымі дзяржавамі.

Якая-ж сытуацыя Беларусі ў сьвятле гэтых вымогаў міжнароднага права?

Аб ніякай беларускай дзяржаве ў часы акупацыі царскай Расеяй ня можа быць і мовы. Пэрыяд аднаўленьня беларускай дзяржавы пачынаецца ад мамэнту абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. БНР аб'ядноўвала ўсе атрыбуты, неабходныя для таго, каб мець кваліфікацыю дзяржавы: народ, тэрыторыю, незалежную ўладу. Апрача таго, БНР была прызнаная «дэ факто» і «дэ юрэ» шэрагам іншых дзяржаваў, зь якімі яна ўтрымоўвала дыпляматычныя дачыненьні, вяла перамовы, і навет падпісвала дагаворы. Ня глядзячы на тое, што ўрад БНР выконваў сваю сувэрэнную ўладу на Беларусі кароткі час і не заўсёды на ўсёй тэрыторыі рэспублікі, пэрыяд гэты адносіцца да пэрыяду беларускай дзяржаўнасьці.

Сытуацыя мяняецца пасьля падзелу і сталай акупацыі Беларусі бальшавікамі і Палякамі.

Абвешчаная бальшавікамі 1-га студзеня 1919 году БССР ня бралася паважна навет самымі ейнымі творцамі. Пасьля няпоўных двух месяцаў яна была зьліквідаваная і замененая іншым няўдалым бальшавіцкім экспэрымэнтам — Літ-Белам, якая у сваю чаргу, падзяліла лёс сваёй папярэдніцы. 1-га жніўня 1920 году бальшавікі паўторна абвяшчаюць куртатую БССР — бо ўсяго на тэрыторыі шасьці паветаў былой Менскай губэрні, — якая, пашыраная тэрытарыяльна і прайшоўшы пэўную эвалюцыю пад поглядам сваіх фармальных праўных нутраных і вонкавых установак, праіснавала да сяньня і становіць з гледзішча дзяржаўнасьці арыгінальную тэму для дыскусіі.

Аб тым, што БССР ня ёсьць ані незалежнай, ані сувэрэннай — згаджаюцца ўсе, апрача, зразумела, бальшавікоў. Аднак міжнароднае права разглядае пытаньне незалежнасьці і сувэрэннасьці інакш. Яно, як гэта ні дзіўна, стаіць не на базе **фактычнага** стану рэчаў, але — **фармальнага.** За крытэрыя азначэньня незалежнасьці і сувэрэннасьці данай дзяржавы яно бярэ тое, як сябе пад гэтым паглядам лічуць самыя прадстаўнікі гэтай дзяржавы. А ведама, што і савецкая канстытуцыя і прапаганда гавораць аб раўнапраўнасьці ўсіх савецкіх саюзных рэспублікаў у пытаньні іхняй «сувэрэннасьці», а апошнія зьмены савецкай канстытуцыі фармальна прызнаюць саюзным рэспублікам права і на самастойную вонкава-палітычную дзейнасьць. Такім чынам сучаснае міжнароднае права зьвяло да нуля значэньне фактычнай незалежнасьці і сувэрэннасьці пры азначэньні дзяржаўнасьці паасобных народаў.

Паводля гэтага фармалістычнага міжнароднага права на працягу існаваньня БССР было некалькі кульмінацыйных пунктаў з гледзішча дзяржаўнасьці гэтага твору.

Фармальная «незалежнасьць» паўторна праклямаванай БССР была скасаваная ў 1922 «дабравольным» пераданьнем у кампэтэнцыю ўсесаюзнага ўраду вонкавай рэпрэзэнтацыі і іншых галоўных галінаў дзяржаўнага жыцьця БССР. Гэта ясна сказана ў саюзнай і рэспубліканскіх канстытуцыях. Артыкул 1, параграф «а» першай усесаюзнай канстытуцыі, апублікаванай ў 1924 годзе, абвяшчаў, што права «рэпрэзэнтаваць Саюз у міжнародных зносінах; наладжваць дыпляматычныя сувязі; заключаць пагадненьні зь іншымі дзяржавамі» належыць усесаюзнаму ўраду. Гэта пацьвярджаў і артыкул 14 новай «сталінскай» канстытуцыі, зацьверджанай у сьнежані 1936 году. Такім чынам, да наступнай зьмены канстытуцыі, у 1944 годзе, БССР была пазбаўленая вымаганай міжнародным правам магчымасьці навязваць і ўтрымоўваць беспасярэдныя сувязі з замежнымі дзяржавамі і таму не магла мець кваліфікацыі дзяржавы.

Падзеі Другой сьветавай вайны змусілі бальшавікоў перагледзець фармальнае становішча нерасейскіх савецкіх рэспублікаў. Яны пераканаліся ў сіле нацыянальных патрабаваньняў нерасейскіх народаў і былі змушаныя пайсьці на ўступкі. 1-га лютага 1944 году Вяр-

**(Заканчэньне на 4-ай бачыне)**

# У дзень найвялікшага сьвята — Вялікадня

**(Заканчэньне зь 1-шай бачыны)**

памятных часоў стаўся ня толькі чыста рэлігійным, але і народным сьвятам. Прыпомнім такія прыгожыя народныя звычаі, як качаньне яек, жакаваньне дзяцей нараніцы першага дня Вялікадня або звычай валачобнікаў, што цэлую вялікодную ноч ходзяць ад хаты да хаты й пад вокнамі, побач з рэлігійнымі вялікоднымі песьнямі, сьпяваюць і «віно зялёнае». У гэтых абрадавых песьнях славяць гаспадара, пазьней гаспадыню, жадаюць ім усякае памыснасьці ў хаце і ў сям'і, прыплоду ў хлеве й добрага ўраджаю ў полі. Маладым дзяўчатам валачобнікі зычаць хутка й шчасьліва выйсьці замуж.

Глыбокая ўрачыстая радасьць зьяўляецца неадлучнай рысай вялікоднага настрою Беларуса. Ды гэта й зразумела. Ужо сам цуд Хрыстовага Ўваскрашэньня й збаўленьня чалавецтва мучаніцкай сьмерцяй зьяўляецца бяздоннай крыніцай найвялікшае радасьці. А ў нас на Бацькаўшчыне Вялікдзень зьбягаецца якраз з пачаткам вясны, калі ўся прырода пасьля зімовага мёртвага сну ўваскрасае да новага жыцьця. Прыход жаданай вясны, зьвязаны заўсёды із сьвятам Вялікадня, родзіць у нашых суродзічаў бадзёрасьць, надзею, веру ў лепшую й шчасьлівейшую будучыню. «Вясёлы дзень для нас настаў, якога кажны з нас жадаў, Хрыстос сягоньня з гробу ўстаў!» — пяе ўрачыстая вялікодная песьня.

Сьвята Хрыстовага Ўваскрашэньня для паняволенага беларускага народу мае так сама й глыбокі сымбалічны сэнс. Хрыстовыя мукі й сьмерць на крыжы, пасьля якой адбыўся цуд уваскрашэньня, прыводзяць на думку долю беларускага народу. Наш народ крочыць сяньня, як і Хрыстос калісьці, цярнёвай крыжовай дарогай, ён пад нялюдзкім зьдзекам бязбожнага камунізму ўмірае на крыжы. Але гэтая аналёгія Хрыстовых мукаў да долі беларускага народу родзіць у нашым выабражэньні й другую аналёгію: наш шматпакутны й бязьвінна мучаны народ, падобна як Хрыстос, сьмерцю сьмерць пераможа й паўстане зь мёртвых да жыцьця вечнага.

Роўна сорак год таму назад адбыўся, хоця й не завяршыўся, першы акт уваскрашэньня беларускага народу, калі Рада Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 году абвесьціла Беларусь вольнай і незалежнай дзяржавай. Гэта сталася якраз перад самымі вялікоднымі сьвятамі. І калі пасьля гэтага мы ўжо саракавы раз адзначалі гадавіну Сакавіковага Акту, дык заўсёды дзеілася гэта напярэдадні Вялікадня. Праўда, гэтая зьбежнасьць датаў ёсьць чыстым прыпадкам, тым ня меней мае сваю глыбокую сымбалічную вымову.

Ня судзіла ліхая доля завяршыць беларускаму народу першы акт свайго ўваскрашэньня сорак год таму назад. Гаротны беларускі народ ўзноў апынуўся на Гальгоце й церпіць нявымоўныя мукі, якія мяжуюць із сьмерцю. Але трэба верыць, што народ наш усё-ж уваскрэсьне, скіне зь сябе ланцугі няволі, залечыць крывавыя раны й зажыве вольным і шчасьлівым жыцьцём. Гэты вялікі цуд народнага ўваскрашэньня станецца, ён стацца мусіць, бо Хрыстос-Бог сваёй сьмерцю перамог сьмерць і нашага народу й дараваў яму жыцьцё вечнае!

**Алесь Крыга**

# За мінулы тыдзень

(пс) Зь кім сабе пасьцелеш, з тым мусіш спаць. Сяньня луганскія сьлесарчукі, курскія падпаскі і іншыя бочкавозы прыкоўваюць увагу ўсяго сьвету. Ня гледзячы на тое, што тайніцы пісанага слова, гэрагліфы літараў яны пазнавалі тады, калі нармальна іхныя равесьнікі ўжо мелі дакторскія дыплёмы. Так, як калісь 25-цігадовы Хрушчоў пацеў, як з паасобных літараў зьляпіць слова, так цяпер вырафінаваныя дыпляматы і інтэлігенты сушаць думніцы і пацеюць, каб зь Гімаляяў хрушчоўскай рытарычнай мякіны выкалупаць зерне праўды, расшыфраваць ягоныя намеры. Трудна, сяньня Хрушчоў — інтэлектуальнае нішто, рэпрэзэнтуе матар'яльную сілу, зь якой нельга ня лічыцца. А што гэтак сталася — вялізарную віну нясуць блізарукія джэнтэльмэны, якія цяпер пацеюць над хрушчоўскімі прамовамі.

Апошняя зьмена на верхавіне савецкага Алімпу ізноў выклікала шмат шуму ўва ўсім сьвеце, хаця — здавалася-б — няшмат зьмянілася. Праз усю сваю кар'еру Булганін быў паслушным выканаўцам нейчых загадаў і такім самым быў на становішчы прем'ера СССР. Ужо навет павольна думаючыя Ангельцы заўважылі гэта падчас візыты Хрушчова і Булганіна ў Англіі. Спачатку ангельская прэса скаротам пісала пра «Бу і Хру», аднак, прыгледзіўшыся лепш, зьмяніла чаргаваньне на «Хру і Бу». Дзякуючы сваей няглыбокай індывідуальнасьці Булганін у добрым здароўі пераžыў сталінскую крывавую пургу, як зрэштай, і ўсе цяперашнія крамлёўскія верхаводы. Таму і тое, што Булганіна адапхнулі ад карыта — ніякая ўстрасаючая падзея.

Вось мы з трыбуны Вярхоўнага Савету СССР пачулі, што Мікіта Хрушчоў — найвыдатнейшы чалавек і гонар Савецкага Саюзу. З гэткім гонарам навет ня выпадае віншаваць... Аднак гэта ўжо выглядае на пачатак «культу асобы», які яшчэ нядаўна так ганіў сам Хрушчоў. Орвэляўскія сьвіньні даказвалі, што ўсе зьвяры роўныя, аднак ёсьць раўнейшыя. Пры маскоўскім карыце таксама мусіць быць нехта раўнейшы... Як да гэтага часу, быццам-бы ўсё разьвіваецца нармальна.

Бадай цікавейшым будзе пытаньне, ці Мікіта Хрушчоў мае ўсе дадзеныя стацца другім Сталінам? На нашую думку — няшмат, ня ўлічваючы ненармальнасьцяў абставінаў у Савецкім Саюзе, дзе магчымыя ўсякія парадоксы. Сталін пачынаў ствараць сваю дыктатуру маючы няшмат больш за 40 гадоў, Хрушчову-ж ужо за 60. Таксама інтэлектуальна нудны балбатун Мікіта ня можа раўняцца з дэманічным Сталінам. Хрушчоў дзеіць у няпрыхільнай самім ім створанай атмасфэры «адлігі», якую хаця ў пару сумеў «падмарозіць», усё-ж стварыліся надзеі, што жудасная сталінская тыранія больш ня вернецца. У вадрозьненьне ад Сталіна, Хрушчоў пакульшто ня зьнішчае фізычна сваіх працаўнікаў. Усё-ж такі сяньня Хрушчоў мае вялізарную ўладу ў сваіх руках і хто ведае, ці дасюлешнія посьпехі не заахвоцяць яго пайсьці за прыкладам Сталіна.

Можна прадбачваць, што апошняя зьмена ня ўплывець на курс замежнай палітыкі Масквы, гэта папершае, што і да гэтага часу яна не залежыла ад Булганіна, а, падругое цяперашняе палажэньне выгоднае бальшавіком і няма патрэбы яго зьмяняць. Розьніца будзе ў тым што цяпер замест дыктаваць Булганіну Мікіта будзе сам пісаць і падпісваць даўжэзныя ноты ды звароты заходнім дыпляматам. А яны будуць чытаць, «вывучаць», сушыць думніцы і пацець, як і дагэтуль...

**Натальля Арсеньнева**

# *Вялікдзень*

> Але вочы іх былі стрыманы,
> дык не пазналі Яго.
> Паводля Лукі сьв. Эвангельле.

І была там вясна,
як наша,
хай ня лозы цьвілі, а міндаль, —
распаляла на нівах і пашах
сонца краскаў ірдзяны вугаль,
у далінах бляялі ягняты,
маткам тулячыся да ног,
і буйных, белых зор зярняты
расьсявалі лялеі ў лагох...
Срэбна й шэра
курэў арэшнік,
лес аліўкаў і вінных лоз...
А вясьне напярэймы.
сьцежкай,
ціха крочыў
Ускрослы Хрыстос.
Сам —
Нясьцерпнае Зьзяньне —
у зьзяньні,
сьмерцяй сьмерць растаптаўшы ушчэнт,
Ён ішоў... і нязгойныя раны
на чале чырванелі яшчэ...
У дзіўным,
у сьвятым захапленьні
Богу-Сыну малілася ўсё —
агарож прыдарожных каменьні,
маладых ячмянёў каласьсё,
весьні вецер, што згортваў з дарогі
вір пялёсткаў...
і сонечны пыл...
і трава, што прабітыя ногі
цалавала,
сьхіліўшы сьцяблы...
А пасьлей —
пацягнуўся шляхамі,
ў скрыпе рогату, крыкаў, калёс,
і народ...
Толькі хто зь іх, няўцямных,
знаў, што побач —
Ускрослы Хрыстос?

Праплывалі,
сьляпыя,
міма
Боскіх цёплых, пясьцівых рук
юнакі з залатымі вачыма,
сьцені старцаў, сагнутых укрук...
І ніхто
ня схінуў каленаў,
ня прыйльгнуў да сьвятой далані,
хай прад сьцерплай ад сьлёз Магдаленай
на імгненьне і ўзьнік Садаўнік...
І ніхто не прамовіў —
«Раввуні»,
ды, найрваўшы пальмовых галін,
нацянькі, шмарагдоваю руняй,
сустракаць
не паймкнуў
у палі...
Плыў а плыў,
зелянейшы зь зялёных,
Дзень Вялікі над цёплай зямлёй...
Пагусьцеў сьцень ад сьцен і калёнаў,
Пацішэлі гасьцінцы й гальлё,
падцікаўся нячутна вечар,
сіні зьмерк...
і ня ўбачыў ніхто
зь недарэчных сыноў чалавечых,
як іх скрозь
пераймаў
Хрыстос,
як ішоў ён, схіліўшы на грудзі
сьветлы твар,
між жывымі — Жывы...
. . . . . . . . . . . . . . .
Гора,
гора,
О, гора Вам, людзі!
бо і сяньня —
сьляпыя Вы!

# ПРЫВІТАНЬНЕ
## Прэзыдэнта Айзэнгаўэра

**Нью-Ёрк:** З нагоды 40-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, прэзыдэнт Злучаных Штатаў Айзэнгаўэр выслаў праз свайго асыстэнта Шэрмана Адамса, на рукі старшыні Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ліст наступнага зьместу:

**«Прэзыдэнт прасіў мяне перадаць вам і сябром ды прыяцелям Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ягоныя прывітаньні й найлепшыя пажаданьні посьпехаў у вашым урачыстым сьвяце. Дух зарадлівай дзейнасьці і багатыя здольнасьці ды умельствы нашых грамадзянаў беларускага паходжаньня зрабілі паважны ўклад у веліч нашага краю.**

**Хоць вашае ўрачыстае сьвяткаваньне адбываецца сёлета ў мірным часе, трэба заўсёды быць на старожы да небясьпекі, што пагражае міру ў сёньнешнім узьнепакоеным сьвеце. Мы ведаем, што нашыя грамадзяне беларускага паходжаньня бяруць ахвярны ўдзел у намаганьні ўтрымаць наш край дужым і падрыхтаваным».**

## Беларуская дэлегацыя ў Віцэ-прэзыдэнта ЗША

**Беларуская дэлегацыя ў складзе Яго Высокапраасьвяшчэнства ўладыкі Васіля, архіяпіскапа Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, і спадара К. Мерляка, старшыні нюёркскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, 24-га сакавіка была прынятая Віцэпрэзыдэнтам Задзіночаных Штатаў Амэрыкі Рычардам Ніксанам на адмысловай аўдыенцыі з нагоды саракавых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Сустрэча гэтая адбылася ў кабінэце Віцэпрэзыдэнта ў Вашынгтоне ў Капітолі, дзе засядаюць абедзьве палаты амэрыканскага Кангрэсу.**

**У гэты дзень Уладыка Васіль прачытаў у амэрыканскім сэнаце, перад адкрыцьцём паседжаньня, малітву з нагоды саракавых угодкаў незалежнасьці Беларусі.**

**У гутарцы зь беларускай дэлегацыяй Віцэпрэзыдэнт Амэрыкі выказаў надзею, што прыйдзе час, калі Беларусь будзе вольнай сярод іншых вольных народаў.**

## Беларуская дэлегацыя ў Бургамістра Нью-Ёрку

У панядзелак 24-га сакавіка бургамістр места Нью-Ёрк Вагнэр, з нагоды саракавых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, прыняў у гарадзкой ратушы — Сіты Гол — дэлегацыю Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня й Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў Амэрыцы. Бургамістр Нью-Ёрку уручыў беларускай дэлегацыі праклямацыю, якой дзень 25-га сакавіка абвешчаны ў Нью-Ёрку днём Беларускае Незалежнасьці з просьбай да ўсіх належна ўшанаваць гэтую нагоду. Беларуская дэлегацыя, з свайго боку, перадала бургамістру Нью-Ёрку выдадзеную нядаўна кніжку дакумантаў аб незалежнасьці Беларусі з дэдыкацыяй Вагнэру, а моладзь прычапіла бургамістру нагрудны значок Згуртаваньня Беларускай Моладзі ў Амэрыцы.

Абвешчаньне штогоду 25-га сакавіка днём Беларускай Незалежнасьці ў Нью-Ёрку ўжо сталася традыцыяй у гэтым горадзе.

## Паасобныя Штаты Амэрыкі ўшаноўваюць Дзень Незалежнасьці Беларусі

У штатах Амэрыкі, дзе жыве большая колькасьць Беларусаў, стараньнямі гэтых апошніх ды дзякуючы глыбокаму зразуменьню з боку амэрыканскіх уладаў вызвольнага змаганьня Беларусі, з году ў год адмысловымі граматамі губэрнатараў дзень 25 сакавіка абвяшчаецца Днём Беларускае Незалежнасьці ў дадзеных штатах. Сёлета дзень 25 сакавіка быў абвешчаны Днём Беларускай Незалежнасьці ў наступных штатах: Нью Ёрк, Нью Джэрзі, Род Айлэнд, Мэрылянд, Огайо, Мічыган ды Іліноіс. Дзень 25 сакавіка быў абвешчаны Днём Беларускай Незалежнасьці таксама ў горадзе Нью Ёрк.



## З пазыцыі сілы й з пазыцыі слабасьці

**(Заканчэньне з 2-ой бачыны)**

задзіночаньня, дык гэта абазначала-б канец разумнай нямецкай палітыкі аб задзіночаньні.

Міністар абароны Штраўс заявіў пад адрэсам сацыял-дэмакратаў: калі сацыял-дэмакраты ўважаюць, што ўрад прыгатаўляе атамную вайну, дык ім з такім-жа правам можна закінуць, што яны прыгатаўляюць бальшавізацыю Нямеччыны.

Пасьля доўгіх і гарачых спрэчак позьнім вечарам 25 сакавіка была вялізарнай бальшынёй галасоў урадавай кааліцыі прынятая запрапанаваная ўрадам пастанова, якая ўпоўнамочвае ўрад узбройваць заходнянямецкую армію атамным аружжам і наагул адобрывае нямецкую замежную палітыку. Найважнейшы другі пункт гэтае пастановы гаворыць:

**«Як доўга камунізм будзе імкнуцца да сваіх мэтаў сьветавае рэвалюцыі, якія ён яшчэ ў лістападзе 1957 году нанава ўзмоцніў на канфэрэнцыі камуністычных і работніцкіх партыяў сацыялістычных краінаў у Маскве, мір і вольнасьць могуць быць забясьпечаныя толькі супольнымі абароннымі высілкамі вольнага сьвету. Бундэстаг сьцьвярджае, што заходнянямецкая армія служыць вылучна справе ўтрыманьня міру й абароне. Таму ён вымагае ад заходнянямецкага ўраду, да часу, калі будзе дасягнутае агульнае раззбраеньне, прадаўжаць разбудову нямецкіх збройных сілаў у рамах Атлянтычнага пакту. Згодна з вымаганьнямі гэтае абароннае сыстэмы і ў сувязі із станам узбраеньняў магчымага праціўніка, збройныя сілы Нямецкай Фэдэральнай Рэспублікі павінны быць узброеныя наймадарнейшым аружжам, каб магчы выканаць узятыя на сябе Заходняй Нямеччынай забавязаньні перад НАТО і мець патрэбную ўдзельную вагу для забясьпечаньня міру».**

Галоўным-жа заданьнем нямецкай палітыкі, — гаворыцца ў 4-ым пункце пастановы — зьяўляецца задзіночаньне Нямеччыны, а галоўнай перадумовай гэтага задзіночаньня — вольныя выбары. Таму **«Бундэстаг станоўча адкідае:**

**а) заключэньне мірнага дагавору з абедзьвюма нямецкімі дзяржавамі;**

**б) перагаворы з прадстаўнікамі рэжыму савецкае зоны Нямеччыны;**

**в) заключэньне канфэдэрацыі з гэтым рэжымам».**

Перамога ўрадавай кааліцыі, якой зьяўляецца прыняцьце гэтае пастановы, здавалася-б, разьвязвае балючае пытаньне нямецкай замежнай палітыкі й справу ўзбраеньня нямецкай арміі атамным аружжам. У запраўднасьці гэтак ня ёсьць. Яшчэ зарана цешыцца, што ў Заходняй Нямеччыне ўсё добра.

Вялікія камплікацыі ў сувязі з прынцыповым разыходжаньнем у паглядах на мэтады задзіночаньня Нямеччыны, на справу атамнага ўзбраеньня й наагул у пытаньнях замежнае палітыкі найбольш завайстрыліся якраз цяпер, як ніколі перад гэтым, і выказваюць тэндэнцыі далейшага завайстрэньня.

Мы адкідаем эвэнтуальнасьць, якая на шчасьце ня збылася, што падчас галасаваньня ў Бундэстагу маглі выйграць сацыял-дэмакраты. Ажыцьцяўленьне такой эвэнтуальнасьці раўнялася-б катастрофе ня толькі для самой Нямеччыны, але й для ўсяго Захаду, у першую чаргу для сыстэмы заходняе абароны.

Але нутраны палітычны працэс у Заходняй Нямеччыне, які разьвіваецца ад даўжэйшага часу й дасягнуў высокай ступені напружаньня падчас апошняе парляманцкае дэбаты, прывёў да падзелу ня толькі ў нямецкіх палітычных колах, але і ў цэлым народзе на дзьве праціўныя групы: на староньнікаў замежнае палітыкі канцлера Адэнаўэра і староньнікаў палітыкі сацыялістычнай апазыцыі пад кіраўніцтвам Оленгаўэра. Іншымі словамі, на староньнікаў палітыкі празаходняй, палітыкі з пазыцыі сілы, і на староньнікаў палітыкі нэўтралізму, палітыкі з пазыцыі слабасьці.

Многа сымптомаў гаворыць за тым, што гэты шкодны падзел апошнімі дэбатамі ў парляманьце ня толькі ня прытупіцца, але будзе ўсьцяж завайстрацца.

Сацыял-дэмакратычная апазыцыя, а за ёй і Вольная Дэмакратычная Партыя, не зложылі свайго аружжа пасьля пройгрышу ў Бундэстагу, але пастанавілі перанесьці змаганьне супраць палітыкі ўраду на адкрыты форум нямецкіх народных масаў. Яшчэ перад заканьчэньнем парляманцкіх дэбатаў сацыялістычная апазыцыя зарганізавала 23 сакавіка ў Франкфурце вялікую пратэстацыйную дэманстрацыю, якіх мае адбыцца ў гарадох і мястэчках Заходняй Нямеччыны некалькі тысяч на працягу найбліжэйшых шасьці месяцаў. Як паказала франкфурцкая маніфэстацыя, апазыцыя ў якасьці свайго аружжа выбрала ўсякія дэмагагічныя прыёмы. Гэтак адзін фізык падчас гэтай маніфэстацыі асьветчыў, што атамная вайна зьвяла-б усю цывілізацыю да ўзроўні каменнага веку. Навет сам Оленгаўэр гаварыў аб «агульнанямецкім магільніку», а адзін пратэстанцкі пастар назваў атамнае аружжа «боскай абразай».

Сацыял-дэмакраты і Вольная Дэмакратычная Партыя асьветчылі, што яны будуць імкнуцца да абвешчаньня ў Заходняй Нямеччыне «нацыянальнага бядотнага палажэньня» („Nationaler Notstand“) і да стварэньня новага ўраду з прадстаўнікоў усіх чыста партыяў з новым канцлерам на чале. Галоўнай мэтай гэтага ўраду мела-б быць заключэньне мірнага дагавору для цэлай Нямеччыны. Такім чынам апазыцыя не пагадзілася з воляю бальшыні, але пастанавіла, наперакор гэтае волі, усякімі ёй даступнымі спосабамі спараліжаваць парляманцкую пастанову й правесьці сваю канцэпцыю.

Апазыцыя энэргічна пачала ў цэлай Заходняй Нямеччыне мабілізаваць публічную апінію пад лёзунгам «змаганьня з атамнай сьмерцяй». Гэтыя фэрмэнты ў Заходняй Нямеччыне зьяўляюцца толькі вадой на млын бальшавіцкіх махінацыяў і калодай у нагі канцлера Адэнаўэра.

Сяньняшняе палажэньне ў Заходняй Нямеччыне фактычна такое-ж як і ў Ангельшчыне, дзе таксама вялікая часьць публічнай апініі папала ў атамную паніку й хацела-б за ўсякую цану скапітуляваць перад Савецкім Саюзам. Але, паза гэтай аналёгіяй, існуюць і істотныя розьніцы. У той час, калі ў Ангельшчыне ўрад зьяўляецца нявольнікам бяскрытычнай публічнай апініі і йдзе напярэймы ейным капрысам, маючы наўвеце хуткія выбары, канцлер Адэнаўэр і ягоныя палітычныя аднадумнікі мелі адвагу стаць панад дэмагагічнымі й каньюнктуральнымі патрабаваньнямі апазыцыі. Гэтая разумная, цьвёрдая й прадбачлівая палітыка канцлера Адэнаўэра і ўрадавай кааліцыі зьяўляецца моцнай зарукай, што Нямеччына выйдзе пераможна із сяньняшняга палітычнага крызізу.

**Язэп Каранеўскі**

## Вугорскія пісьменьнікі супраць рэжыму

На прэсавай канфэрэнцыі, якая адбылася ў Будапэшце 21-га сакавіка, старшыні вугорскага інфармацыйнага бюро Лясьлё Дзіярашу было пастаўленае пытаньне: чаму ў гэтым годзе ў Вугоршчыне нікому ня дадзеная прэмія імя Кошута ў літаратуры? На гэтае пытаньне Лясьлё Дзіяраш адказаў: «Урадавая камісія ў справах прысуджэньня прэміі імя Кошута ў гэтым годзе не знайшла сярод твораў вугорскіх пісьменьнікаў ніводнай выдатнай працы, за якую яна магла-б з поўнай адказнасьцю даць прэмію».

Гэтым тлумачэньнем прадстаўнік ураду Мюніха сказаў фактычна яшчэ менш, чымся цэнтральны ворган гэтак званай вугорскай сацыялістычнай работніцкай партыі, газэта «Нэп Сабад Шаг», якая ўжо выказалася ў гэтым пытаньні 15-га сакавіка. У перадавым артыкуле, загалоўленым «Ацэнка творчай працы», газэта заявіла: «У сяньняшнім сьпісе ўзнагароджаных зусім адсутнічаюць імёны пісьменьнікаў. Няма сумлеву, што ў нашай літаратуры, якая перайшла цяжкія выпрабаваньні і цяпер зноў ажывае, хутка зноў зьявяцца такія новыя выдатныя ў ідэялягічным і мастацкім сэнсе творы, якія будуць заслугоўваць і на прэмію імя Кошута.» Літаратурная газэта «Элет эш Іродалём» таксама цьвердзіць, што літаратурныя творы, якія зьявіліся летась — раманы, апавяданьні і вершы, — калі навет яны з мастацкага гледзішча цэнныя — дык іх нельга ўважаць задавальняючымі зь ідэялістычнага гледзішча. У кажным выпадку, за ўсю гі-

**(Заканчэньне на 4-ай бачыне)**

Я. Станкевіч

## Імсьціслаў Харобры і Імсьціслаў Удалы

**(З ЦЫКЛЮ «БЕЛАРУСКІЯ ГАСПАДАРЫ-ВАЙВОДЦЫ»)**

Да сярэдзіны XII стагодзьдзя былі тры народы славянскіх моваў на ўсходзе Эўропы, найме былі імі балцка-славянскія Беларусы, іранска-славянскія Украінцы і фінска-славянскія (ільменскія) Славене, болей ведамыя пад ноўшым назовам Ноўгарадцаў. Згодна зь вялікай розьніцаю пахаджэньня, гэтыя народы розьніліся міжсобку сваім характарам, звычаямі, гістарычнымі традыцыямі й культураю. Палітычна былі яны арганізаваўшыся ў свае апрычоныя незалежныя гаспадарствы. Найчысьленшыя зь іх Беларусы мелі шэсьць гаспадарстваў — княствы Полацкае, Северскае, з каторага ў XII стг. памалу выдзелілася княства Разанскае, Смаленскае, Тураўска-Пінскае і рэспубліка Пскоўская. Было колькі гаспадарстваў украінскіх. Таксама ў іншых народаў у старавеччу, звычайна, замест аднаго агульна-нацыянальнага гаспадарства, было колькі асобных гаспадарстваў. Славене тварылі адно гаспадарства — Вялікі Ноўгарад.

Але ў сярэдзіне XII стг. на паўночным усходзе і ўсходняэўрапэйскае раўніны выступае на палітычную арэну новы народ — Суздальцы, каторыя ў XIV стг. пачалі звацца Маскоўцамі, а з XVII стг. — Расейцамі. Утварыліся яны з асыміляцыі ноўгарадзкімі каляністымі шмат якіх фінскіх плямёнаў. Канчальная крысталізацыя Суздальцаў у вапрычоны народ прыпадае на канец першае палавіны XII стагодзьдзя.

Гэты новы народ натолькі быў розны ўсімі сваймі рысамі ад трох вышменаваных народаў, што ён супрацьставіўся ўсім ім, як і яны яму. Аднэй з характарыстычных рысаў Суздальцаў была сьляпая паслушнасьць сваім валадаром, каторыя із свайго боку сваю самадыю ўважалі за найвышшае права ў дачыненьні да народу. Правы, выдаваныя гэтымі валадарамі, ня толькі талеравалі, але і ўводзілі крыўды. Паводля словаў суздальскага летапісца, ёсьць рэчай нармальнай, што «где закон, там и обид много» [1]. Дык палітычны лад у Суздальшчыне адзначаўся вялікім дэспатызмам, чым дыямэтральна розьніўся ад рознага роду дэмакратычнага ладу ў Беларусаў, Украінцаў і Ноўгарадцаў.

Дзеля менаванага між сьветам гэтых трох народаў і Суздальцамі мусіла прыйсьці да стыркненьня. Найперш гэта сталася паміж Суздальцамі і Вяцічамі Разанскага княства, як із суседзьмі з даўгой граніцаю. (Княства Разанскае з кажнага гледзішча было гаспадарствам беларускім) [2]. Прыраўнальна невялічкае Разанскае княства не магло даць станаўкога адпору суздальскай захопнасьці і часта было Суздалем перамаганае. Не магла даць такога адпору і вялікая Ноўгарадзкая рэспубліка — дзеля купецкага характару свайго грамадзтва і свае арганізацыі. Справа была разьвязаная ходаньнем із Суздальцамі бальшыні беларускіх гаспадарстваў, галоўна-ж Вялікага Княства Смаленскага, штоranічыла із Суздальшчынаю, хоць і на кароткім адрэзку. (У тых прыпадках, калі суздальская захопнасьць датыкалася беспасярэдня Ноўгараду, дык і гэты ходаўся із Суздалем).

Дзеля таго належыцца тут колькі словаў пра само Вялікае Княства Смаленскае. Стварыла яго вялікая часьць беларускага племені Крывічоў. Займала яно вялікую тэрыторыю. На Захадзе межавала зь беларускімі-ж гаспадарствамі — з княствам Полацкім і Пскоўскаю рэспублікаю. Недалёкімі ад граніцы смаленскімі местамі тут былі Жыжэц ля возера Жыжцы, Краснае на паўдзённы-захад ад Смаленску і Заруб, а местамі полацкімі былі Еменец, Усьвят, Рша (цяпер Ворша), Копысь. На поўначы і паўночным-усходзе граніца Смаленскае зямлі была із зямлёю Ноўгарадзкай. Праходзіла яна на поўнач ад возера Селігер; на поўначы местамі смаленскімі былі тут Холм і Клічаў (цяпер Асташкаў), а на паўночным усходзе Ржэў ля Волгі. На ўсходзе блізка граніцы із Суздальшчынаю было смаленскае места Мажайск, галоўнае места мажайскага ўдзелу. На паўдзённым усходзе зямля Смаленская межавала зь беларускім княствам Северскім. Мяжа тутака праходзіла на ўсход ад смаленскіх местаў Медынь, Хоўрач і на захад ад належачых да Северскага княства вяціцкіх местаў Таруса, Масальск, Казельск і трохі на паўночны захад ад радзіміцкага места Ушчыж. На паўдні граніца таксама была з княствам Северскім. Тут верх Дзясны, Сожа і ягоных прытокаў Беседзі й Іпуці належылі да княства Смаленскага; граніца праходзіла крышку на поўдзень ад смаленскіх местаў Зары, Крычава й Прапойска.

На зары гісторыі ў IX стг. Смаленск ужо быў вялікім местам. Праўдападобна ў IX стг. і траха да канца X стг. Смаленшчына ўходзіла ў склад агульна-беларускага гаспадарства, цэнтр каторага быў у Полацку. У канцы X стг. Смаленск (але ня ўся Смаленшчына) быў заваяваны кіеўскім князем Валадзімерам, каторы пасадзіў у Смаленску за князя свайго сына Станіслава [3]; зн. Смаленск, застаючыся гаспадарствам, быў узалежнены ад Кіява.

Па сьмерці Валадзімера кіеўскага ў 1015 г., Смаленск зьвярнуў сабе незалежнасьць. Ад 1024 г. да 1036 г. на чале ўсіх беларускіх земляў, лежачых на ўсход ад Дняпра, у тым ліку й Смаленскае зямлі, стаіць северска-беларускі князь Імсьціслаў Вялікі. Па ягонай сьмерці ў 1036 г. Смаленск хіба ўзноў лучыў у залежнасьць ад Кіева, бо бачым у ім князьмі сыноў кіеўскага князя Яраслава Мудрага, спачытку Вячаслава, потым Ігара. Па сьмерці гэтага ў 1060 г. прыбыткі із Смаленскае зямлі йдуць тром Яраславічам — Зяславу, Сьвятаславу і Ўсеваладу, але княства Смаленскае ня было падзеленае [4]. Ад 1073—1076 гг., калі князь Сьвятаслаў Яраславіч, засіпаючыся северскім патрыётам, заняў вялікакняскі пасад у Кіеве, то й Смаленшчына не дазнавала ўлады чужога князя. Па сьмерці Сьвятаслава ў 1076 г. смаленскім князем становіцца вораг Беларусі, Валадзімер Усеваладавіч, каторага пасьлей летапісцы назвалі Манамахам. Але ён ня ліквідуе княства Смаленскага, а толькі ўзаляжняе яго ад Кіева. За князёў у Смаленску ён прызначае сваіх сыноў — Сьвятаслава, што княжыў да 1113 г., а пасьлей Вячаслава, каторы заставаўся ў Смаленску да 1125 г.

Увесь гэты час, ад канца X стг., Смаленская зямля то бывае незалежная, то лучае ў залежнасьць ад Кіева. Будучы залежнымі, Смальняне на чале із сталічным вечам ня перастаюць ходацца за сваё вызваленьне. Чужыя князі баяцца жыць у самым Смаленску, яны пабудавалі сабе рэзыдэнцыю на захад ад места Смаленску, дзе ля ракі Сьмядыні паўстаў «горад княжы» [5]. Мясцовасьць гэтая была яшчэ тым выгодная князём, што яны мелі магчымасьць загарадзіць гандлёвую дарогу з паўдня і гэтым мелі вялікую перавагу ў сваіх супярэчках із Смальнянамі. «У часе ходаньня (северскіх) Сьвятаславічаў з Валадзімерам Манамахам і Сьвятаполкам Зяславічам за Севершчыну (у 90-ых гадох XI стг.) Смальняне прыймаюць у сябе за князя Давіда Сьвятаславіча і аддаюць пад загад (ягонага брата) Алега Сьвятаславіча сваё народнае войска, з каторым ён перамог у Мурамскай зямлі Зяслава, сына Манамахавага» [6]. Гэтымі самастойнымі і варожымі да Кіева дзеяньнямі ў палітычных здарэньнях Смаленск выказаў ясна сваё імкненьне быць незалежным гаспадарствам.

Гэтае ўставічнае ходаньне вялікае Смаленскае зямлі за сваю незалежнасьць загартавала ейныя беларускія сілы і прынучыла лічыцца із Смальнянамі нат Валадзімера Манамаха. Ён ідзе на ўступкі смаленскай самастойнасьці, а ў 1101 г. ставіць у Смаленску царкву Ўсьпеньня Багародзіцы, праектуючы стварыць асобную Смаленскую япіскопію, што заўсёды была-б зьвязана зь незалежнасьцяй палітычнай [8].

Зусім незалежным гаспадарствам Смаленская зямля сталася ад 1125 г., калі смаленскі пасад заняў унук Валадзімера Манамаха, Расьціслаў Імсьціславіч [9]. Расьціслаў злучыў сваю долю з доляю Смальнян-Беларусаў. Яшчэ за жыцьця гэтага князя Вялікае Смаленскае Княства даходзіць палітычнай магутнасьці, зь ім лічацца ня толькі ягоныя беларускія гаспадарствы-суседзі, але мусяць лічыцца й небеларускія. Княства Разанскае шукае ў Смаленску апірышча супраць Суздалю, у 1155 г. разанскія князі прызнаюць Расьціслава за

# Да пытаньня дзяржаўнасьці Беларусі

(Заканчэньне з 2-ой бачыны)

хоўны Савет СССР абвяшчае пастанову аб новай зьмене канстытуцыі СССР і ўсіх нацыянальных рэспублікаў, паводля якой пры ўрадах нацыянальных рэспублікаў творацца гэтак званыя «саюзна-рэспубліканскія наркаматы» замежных і вайсковых спраў, якія пазьней былі перайменаваныя ў міністэрствы, і рэспублікам даецца канстытуцыйнае права мець беспасярэдныя дыпляматычныя зносіны з заграніцай.

Атрымаўшы гэтыя фармальныя юрыдычныя правы для самастойнай дыпляматычнай дзейнасьці, БССР атрымала той мінімум фармальных атрыбутаў дзяржаўнасьці, які вымагаецца сучасным міжнародным правам. На аснове гэтага яна была прынятая, у якасьці заснавальніка і раўнапраўнага сябры, у Арганізацыю Задзіночаных Нацыяў. У сваю чаргу, сяброўства БССР у АЗН абазначае прызнаньне яе, як дзяржавы, усімі іншымі дзяржавамі-сябрамі Арганізацыі, бо сябрамі АЗН могуць быць толькі сувэрэнныя дзяржавы. Артыкул 3. статуту АЗН гаворыць: «Сябрамі Арганізацыі Нацыяў зьяўляюцца **дзяржавы** (падкрэсьленьне наша — Ю. Д.) ...» Такім чынам, з пункту гледжаньня міжнароднага права, дзяржаўнасьць Беларусі была прызнаная і пацьверджаная бальшынёй народаў сьвету. А гэта вельмі важна, бо зьліквідаваць прызнаную амаль усім сьветам дзяржаву ўжо ня гак лёгка.

Пры гэтым трэба памятаць, што міжнароднае прызнаньне **дзяржавы** ня мае нічога супольнага з прызнаньнем **ураду.** Урады могуць зьмяняцца, але дзяржава застаецца. Навет савецкае права гаворыць, што «Зьмена формы кіраваньня пэўнай дзяржавы ня ўплывае, у прынцыпе, на яе палажэньне, як суб'екту міжнароднага права». Гэтае разрозьненьне міжнародным правам прызнаньня дзяржавы і ўраду цягне за сабой тыя лягічныя наступствы, што новы ўрад аўтаматычна пераймае ўсе правы і забавязаньні, якія дзяржава мела раней у міжнародных дачыненьнях.

Усьведамленьне і правільнае разуменьне гэтага разрозьненьня дазваляе нам лягчэй разабрацца ў гэтым скамплікаваным пытаньні і заняць адпаведную пазыцыю. Мы бачым, што нам няма чаго баяцца гаварыць аб тым, што БССР прызнаная дзяржавай. Прызнаваць існаваньне дзяржавы не абазначае, што трэба прызнаваць і існуючы ў данfamы мамэнт урад ды заведзены ім у краіне парадак. Мы гаварылі і гаварыць будзем, што мы не пагаджаемся з БССР, як формай беларускай дзяржавы, бо яна не абыймае ўсяе беларускае этнаграфічнае тэрыторыі, не зьяўляецца незалежнай і сувэрэннай, і што мы супраць камуністычнага рэжыму.* Мы змагаемся за ліквідацыю камуністычнай дыктатуры, за ўстанаўленьне дэмакратычнага парадку ў беларускай дзяржаве і за аднаўленьне ўсіх ейных палітычных правоў, але адмаўляць факт існаваньня беларускай дзяржавы было-б палітычнай памылкай.

**Ю. Дубовік**

# Вугорскія пісьменьнікі супраць рэжыму

(Заканчэньне з 3-яй бачыны)

сторыю прэміяў імя Кошута, у гэтым горадзе першы раз камуністычны ўрад Вугоршчыны не знайшоў ніводнага літаратурнага твору, годнага такой узнагароды. Як ведама, прэмія прысуджалася штогоду 15-га сакавіка.

Найлепшыя і найбольш папулярныя пісьменьнікі і паэты Вугоршчыны ўсё яшчэ бяруць узел у «змове маўчаньня». Яны адмаўляюцца супрацоўнічаць з рэжымам Кадара і Мюніха ды маральна падтрымоўваюць гэты рэжым сваімі творамі. Вялізарная большыня ведамых вугорскіх пісьменьнікаў салідарызуецца з засуджанымі на доўгія тэрміны зьняволеньня сябрамі, асабліка з Тыборам Дэры. Усе яны — і зьняволеныя і тыя, што карыстаюцца вельмі адноснай свабодай, у кастрычніку і лістападзе 56-га году працавалі ў управе саюзу вугорскіх пісьменьнікаў, бралі ўдзел у нарадах ведамага клюбу Пэтэфі, дапамагалі старшыні Рады Міністраў Імрэ Надзю ў распрацоўцы новага палітычнага курсу.

Навет тыя пісьменьнікі і паэты, якія цяпер прымушаныя публікаваць свае творы, старанна ўнікаюць якіх-небудзь выступаў на карысьць кадараўскага рэжыму. Гэта пацьвярджае навет адзін із нешматлікіх сярод пісьменьнікаў рэжыму Імрэ Дзіерэ. У сваім артыкуле ў сакавіковым нумары літаратурнага часапісу «Кортарш» («Сучасьнік») Дзіерэ крытыкуе вугорскіх пісьменьнікаў за тое, што яны ўнікаючы адказнасьці, «зарываюцца ў мінулае». У гэтым-жа нумары «Кортарш», нейкі Лясьлё Надзь разглядае крытыку анталёгіі 15-ці маладых вугорскіх паэтаў — крытыку, што зьявілася ў лютаўскім нумары гэтага часапісу. Лясьлё Надзь піша: «Гэтая крытыка несправядлівая. Праўда, у вершах гэтых паэтаў адсутнічае ўсякі палітычны інтарэс, але прычыну гэтага трэба шукаць не ў самых паэтаў, а ў заблытаным палітычным палажэньні». Гэтыя словы Лясьлё Надзя адносяцца да крытычнага артыкулу аб маладых паэтах, напісанага Міклёшам Сабольчы. Ён параўноўвае анталёгію зь іншай анталёгіяй, якая зьявілася ў 52-ім годзе, і прыходзіць да наступнага высьнаву: «Анталёгія 52-га году адрозьнівалася ў цэлым шэрагу вершаў энтузіязмам, які здаваўся тады шчырым запалам да ажыцьцяўленьня запаветаў партыі, але таксама вычварнай фразэалёгіяй, схэматызмам і пустымі словамі ... У новай анталёгіі ўсяго гэтага няма і сьледу».

Гэтак піша крытык параўнальна буйнага вугорскага літаратурнага часапісу. Наўрад ці хто-небудзь іншы здолеў-бы лепш за яго вытлумачыць, чаму лепшыя вугорскія пісьменьнікі і паэты або маўчаць, або хаваюцца ў мінулым. Гэтак-жа пішуць на нявінныя тэмы і ў Савецкім Саюзе, і ў іншых камуністычных краінах. І ў гэтым трэба бачыць тлумачэньне таго факту, што будапэшцкі ўрад ў гэтым годзе нікога не ўзнагародзіў прэміяй імя Кошута.

**А. К.**

# Шляхам нявольніцкага паслухмянства

У 1956 годзе ў БССР зьявіўся даведнік «Беларуская ССР» І. Краўчанкі, Н. Рамаўскага й Т. Хадкевіча. Гэты даведнік пра беларускі народ быў перакладзены на летувіскую мову і ў 1957 годзе выдадзены ў Летуве. Адным словам, Беларусь завітала за парог нашых суседзяў. Якой-жа яна там паказалася, ці, праўдзівей, як яе апранулі ў дарогу?

Перад намі кароткая аднатацыя А. Абрамавічуса, Р. Шалугі й Л. Владзімірскага (дзіўнае спалучэньне трыўмвіратаў!) на летувіскі пераклад «Беларускай ССР» І. Краўчанкі, Н. Рамаўскага й Т. Хадкевіча, што зьявілася на бачынах другога нумару часапіса «Камуніст Летувы» за бягучы год пад назовам «Прыкрыя недакладнасьці ў карысным выданьні». Кранаючыся гістарычнай інфармацыі ў даведніку пра Беларусь, успомненыя аўтары аднатацыі зьдзіўляюцца: «Незразумела таксама, чаму аўтары кнігі абыходзяць моўчкі пытаньне дасягненьняў беларускай культуры ў XIII—XVI стагодзьдзях. Агульна ведама, што ў гэты пэрыяд афіцыйнай гаспадарствавай мовай ува ўсім Літоўскім княстве была беларуская мова. На гэтай мове пісаліся ня толькі дзяржаўныя дакументы, але й літоўскія летапісы і статуты. Ведама таксама, што першыя кнігі друкаваліся ў Літве на беларускай мове. Аўтары не ўспамінаюць навет таго важнага факту, што першая кніга «Апостал» была надрукаваная вядомым беларускім прасьветнікам Скарынай у 1525 годзе ў Вільні. Таксама ў Вільні, у друкарні Мамонічаў у 1588 годзе быў выдадзены на беларускай мове Трэйці Літоўскі статут, які быў у сіле на ўсёй тэрыторыі княства бадай што на працягу трох стагодзьдзяў. Выданьне кнігаў на беларускай мове ў Літве і распаўсюджваньне гэтых кнігаў значна прысьпешыла працэс фармаваньня беларускай літаратурнай мовы. Сталіца Літвы — Вільня — ужо ў той час была паважным цэнтрам друку, тут было выпушчана ў сьвет многа беларускіх выданьняў».

Прыходзіцца толькі падзякаваць за прыпамін навукоўцам нашай суседкі — Летувы, хоць яны і не адмаўляюцца ўважаць гістарычную Літву за сучасную Летуву ды й не «разумеюць», што гэтае іхняе **«агульна ведамае»** бывае часамі агульна няведамым, ня сталай арыфмэтычнай вялічынёй. Напрыклад, для ўспомненых беларускіх навукоўцаў **гэта,** г. зн. што Беларусы **калісьці** мелі сваю высокую культуру, зусім «няведама». Ведама, шкада іх, калі яны не з свае віны змушаныя лічыць 2+2=5, а не 4, і вельмі сорамна за іх, калі яны, сьведама прытрымоўваючыся прынцыпаў так званае «савецкае» гістарычнае навукі, з 4 робяць 5.

Мы ня маем пад рукой «Беларускай ССР» Краўчанкі, Рамаўскага й Хадкевіча, каб поўнасьцяй ацаніць гэтае выданьне. Аднак, судзячы з гэтага факту, што ў ім замоўчваецца, і гэтым самым хвальшуецца гісторыя культуры народу, можна сказаць, што аўтары выпусьцілі за парог схвальшаваны жыцьцяпіс прыгожае й багатае нявесткі.

Перад намі другая кніга — таксама даведнік «Беларуская ССР», выдадзены ў 1957 годзе Інстытутам эканомікі Акадэміі навук БССР. Як і папярэдні, ён выдадзены таксама на расейскай мове. У прамове да яго чытаем: «Даная праца ўяўляе сабой камплексную эканоміка-геаграфічную характэрыстыку Беларусі і знаёміць чытача з асаблівасьцямі прыродных умоваў і багацьцяў, геаграфіяй насельніцтва й гаспадаркі, умовамі ягонага фармаваньня, з дасягненьнямі ў разьвіцьці навукі й культуры беларускага народу».

Такім чынам даведнік мусіў абняць як геаграфію краіны, так і ўсе дзялянкі жыцьця народу, уключна зь ягонай гісторыяй.

Трэба сьцьвердзіць, што ў гэтым даведніку ўжо зазначана: «Беларускі народ — народ з старадаўняй і багатай культурай». Зазначана таксама, што ў пачатку XVI стагодзьдзя беларускім першадрукаром і прасьветнікам Ф. (у арыгінале Г.) Скарынай былі выдадзеныя першыя кнігі на «нацыянальнай мове», што кнігадрукарства ў Беларусі дасягнула ў XVI стагодзьдзі высокага ўзроўню ды што аб высокай беларускай народнай культуры (сік) таго часу гавораць багатыя помнікі архітэктуры й мастацкіх рамёслаў, сьляды якіх можна знайсьці навет і ў Маскве (б. 87). Ня будзем аднак радавацца з гэтых кароткіх заўвагаў, бо там-жа сама зазначана таксама, што беларуская культура цесна пародненая з культурай расейскага й украінскага народаў, што культуры гэтых трох народаў бяруць свой пачатак у ваднэй культуры аднэй старажытнарускай народнасьці і што «на працягу ўсяе гісторыі культура беларускага народу была цесна зьвязаная з расейскай культурай», дабрадзейнае ўзьдзеяньне якой на культуру беларускага народу асабліва павялічылася пасьля прылучэньня Беларусі да Расеі ў канцы XVIII стагодзьдзя.

Атрымоўваецца такім чынам, што культура беларускага народу толькі існавала й разьвівалася дзякуючы цесным сувязям і пад уплывам культуры расейскага народу.

Аднак яшчэ ня ў гэтым заключаецца нявольніцкае прыкланеньне перад устарэлымі цьверджаньнямі й канцэпцыямі. Яно вынікае з пагляду на палітычную гісторыю Беларусі. Пералічым галаўнейшыя ўстаноўкі-канцэпцыі, якія зводзяць на нішто гісторыю беларускай гаспадарствавасьці:

а) раней (прынамся ў IX—XI ст.ст.) было адзінае гаспадарства Русь і адзін рускі народ;

б) разьвіцьцё феадальных адносінаў на Русі прывяло да раздробленьня старарускага гаспадарства;

в) на тэрыторыі Беларусі ў канцы XI і ў XII ст. заснаваліся Полацка-Менскае й Турава-Пінскае княствы;

г) доўгае змаганьне з Татарамі на ўсходзе і зь Немцамі на захадзе аслабілі сілы раздробленай Русі і аблягчылі летувіскім феадалам заваяваньне ейных заходніх земляў;

д) у XIV—XVI стг. заканчваецца працэс фармаваньня беларускай народнасьці на тэрыторыі ад Дзьвіны да Прыпяці, ад Дняпра да Заходняга Бугу;

е) эканамічнае й культурнае разьвіцьцё беларускіх земляў праходзіла ў цеснай сувязі зь землямі паўночна-ўсходняй Русі (Маскоўшчынай);

ж) палохаючыся ўсё ўзрастаўшых сымпатыяў народных масаў Беларусі й Украіны да Расейскага гаспадарства і імкнучыся пашырыць свае прывілеі, феадалы Літоўскага княства злучыліся з польскімі панамі. Саюз польскіх і летувіскіх феадалаў быў замацованы Люблінскай вуніяй 1569 году;

з) у сярэдзіне XVII ст. беларускі й украінскі народы згуртоўваюць свае сілы ў нацыянальна-вызвольнай вайне супраць феадальнага й нацыянальнага прыгнечаньня за задзіночаньне з расейскім народам у вадным Расейскім гаспадарстве;

і) задзіночаньне Беларусі з Расеяй, якое наступіла ў вапошняй чвэрці XVIII ст., мела аграмаднае прагрэсыўнае значэньне для эканамічнага, палітычнага й культурнага разьвіцьця Беларусі (б. 45—50).

Так у даведніку насьветлена палітычная гісторыя Беларусі, а ня дадзена навет кароткіх паясьненьняў да так доўгага адасобленага гістарычнага працэсу народу й да пытаньня, чаму-ж склалася беларуская народнасьць, будучы ўвесь час у няволі.

Зрэзюмуем усе гэтыя канцэпцыі ў вадно цэлае: з прычыны фармаваньня феадальных дачыненьняў на Русі ў XII ст. выдзяляюцца Полацка-Менскае й Турава-Пінскае беларускія княствы, у XIII—XIV стг. яны былі заваяваныя Летувісамі, у XVI ст. яны канчаткова перадаюцца Польшчы за непаслухмянства Летувісам і свой пацяг да «роднае» Маскоўшчыны. У міжчасе складаецца беларуская народнасьць **у міжрэччы**

(Заканчэньне на 5-ай бачыне)

свайго бацьку. Суздальскі князь Юры Даўгарукі ў сваіх паходах на Кіеў ні разу не паважыўся прайсьці праз Смаленскае княства. Ад 1159 г. да свае сьмерці ў 1168 г. Расьціслаў займаў вялікакняскі пасад у Кіеве, пакінуўшы на пасадзе Вялікага Князя Смаленскага свайго сына Рамана. За беларускі патрыятызм. Расьціславаў, яго бязьмежна любілі Смальняне. «Зь вялікай радасьцю Смальняне выходзяць на пярэймы Расьціславу Імсьціславічу за 300 вёрстаў ад Смаленску, калі ён із Кіева ехаў да Ноўгараду ў 1168 г.» [10].

Ад 1140 г. беларускі Пскоў увесь час прымае ў сябе за князёў смаленскіх Расьціславічаў. Па сьмерці Расьціслава ягоныя сыны — Рурык, Давід, Імсьціслаў маюць у «Рускай зямлі» — так звалася Кіеўскае Княства — і кіеўскіх воласьцях свае ўставічныя дзяржавы (землі, каторыя яны дзяржалі). Рурык, княжачы доўгі час у Дзераўскай сталіцы Аўручу, вызваляе ад Кіева гэтую беларускую зямлю. Такім-жа парадкам Давід Расьціславіч прылучае Вышгарад да смаленскіх дзяржаваў [11]. Сядзяць смаленскія князі таксама ў Ноўгарадзе.

Маючыя свае дзяржавы ў чужых краёх, князі Смаленшчыны адначасна маюць свае ўдзелы ў Вялікім Княстве Смаленскім, гэта бароніць іх ад дэнацыяналізацыі. «Адылі ... мы ня сустракаем у гісторыі Смаленскае зямлі ходаньня за ўдзелы» [12]. Вялікі Князь Смаленскі заставаўся заўсёды поўным гаспадаром усяе зямлі, а ўдзелы ягоных сваякоў былі адно воласьцямі, з каторых ім ішлі прыбыткі, яны ня былі палітычнымі адзінкамі, якімі былі ўдзелы ў іншых землях. «Гэткім парадкам, канчае гісторык Галубоўскі, князь места Смаленскага, веча места Смаленскага былі князем і вечам усяе Смаленскае зямлі». «Адзіночачай сілай было тут веча места Смаленскага, каторае не дапушчала магчымасьці палітычнай незалежнасьці прыгарадаў». Перш-на-перш веча ў кажнай зямлі рупілася пра яе цэласьць. Такі карысны палітычны лад у Смаленскім княстве, відавочна, вырабіла Смаленскае веча да 1125 г., калі князямі ў Смаленску бывалі чужнікі. За чужых князёў веча мусіла асабліва баяцца за цэласьць зямлі і ў дужай зямлі Смаленскай яно ўзумела абараніць яе ад падзелу.

Вось гэткае Вялікае Княства Смаленскае галоўна выпаўніла заданьне збройна супрацьставіцца Суздальшчыне. У гэтым ходаньні Суздальшчынаю валодалі два сыны Юр'і Даўгарукага, Андрэй і Ўсевалад III, а з боку беларускага на чале збройных сілаў Смаленшчыны стаялі два ўдзельныя смаленскія князі, Імсьціслаў Харобры і Імсьціслаў Удалы, бацка й сын.

Заданьнем аўтара гэтага артыкулу ня ёсьць апісаць усё ходаньне беларускіх гаспадарстваў із Суздальшчынаю, але толькі паказаць ваенную дзейнасьць двух беларускіх Імсьціславаў, паколькі яна зьвязана з войнамі із Суздальшчынаю.

Імсьціслаў Харобры, паводля летапісцавых словаў, з моладу прывык не баяцца нікога, апрача аднаго Бога. Ля Вышгараду (у Кіеўскай зямлі) ён із малымі сіламі зусім чыста разьбіў вялікае войска Андрэя Багалюбскага. Папрошаны Ноўгарадам на пасад у 1179 г., ён і тут адзначыўся надзвычайнымі ваеннымі ўдачамі.

Імсьціслаў Харобры ўмёр у Ноўгарадзе ў 1180 г. Ноўгарадцы пахавалі яго ў тэй самай грабніцы, дзе быў пахаваны першы князь, умерлы ў іх, Валадзімер Яраславіч, закладнік царквы Сьвятое Софіі. Плакала па Імсьціславу ўся зямля Ноўгарадзкая, кажа летапісец. Гэтак Ноўгарадцы вялічалі яго на пахове: «Ужо нельга цяпер нам будзе паехаць з табою на чужую зямлю ... валей-бы нам цяпер умерці з табой! Ты даў нам вялікую свабоду ад паганых ... а цяпер ужо не пабачым цябе болей, сонца нашае зайшло, і засталіся мы безбаронныя, кажны можа цяпер крыўдзіць нас». Імсьціслаў, паводля летапісцавага сьветчаньня, быў сярэдняга росту, харошага віду (твару) прыбраны ўсялякімі цнотамі й звычаямі. зь любасьцю ставіўся да ўсіх, асабліва быў шчодры да бедных, надараў манастыры; дуж быў у бітве; калі бачыў хрысьціян, уводжаных у палон паганамі, то казаў дружыне сваёй: «Браты! Ня сумлявайцеся: калі цяпер умром за хрысьціян, дык ачысьцімся ад грахоў і Бог прыйме кроў нашу за мучаніцкую; калі Бог дасьць ласку сваю, то дзякуй Богу, а калі давядзецца ўмерці, дык усёроўна: мусім-жа калі-колечы ўмерці». Гэткай прамоваю ён абасьмяляў дружыну.

Яшчэ выдатнейшы за Імсьціслава Харобрага вайводца быў ягоны сын Імсьціслаў Удалы. Ягонае ваеннае ўменьне чым далей, тым бліскучэй праяўлялася. У суседніх і дальшых краёх ня было адважнейшага за яго князя; «куды ён ня зьявіцца, усюдых прыносіць із сабою перамогу; ён ня будзе чакаць, пакуль паўночны князь прышлець на паўдня чысьленыя палкі, каб адбіць іх, як бацька ягоны адбіў палкі Андрэявы, ён сам пойдзе ў глыб гэтае страшнае, суровае, сьціскаючае поўначы і там пераможа ейных князёў» [13].

Да вялікае вайны із Суздальшчынаю дайшло наступным парадкам. На просьбу Ноўгарадцаў даць ім сына за князя Усевалад III Суздальскі паслаў да Ноўгараду свайго дзесяцігодняга сына Сьвятаслава. Ведама, ад Сьвятаслававага імені дзеялі прыехалыя зь ім суздальскія баяры і зрабілі шмат крыўдаў Ноўгарадцам. Ноўгарадцам удалося пераканаць Усевалада забраць Сьвятаслава. Тады Ўсевалад із згоды Ноўгарадцаў даў ім за князя свайго старшага сына Кастанціна. Але за Кастанціна яшчэ большыя крыўды пачалі дзеяцца Ноўгарадцам. Гэтак

> «Новы пасаднік (ноўгарадзкі) Мірошкініч, з братам і прыяцелямі, апіраючыся на сілу суздальскага князя, захацелі забагацець коштам жыхароў і дазволілі сабе такія ўчынкі, каторыя ўзьнялі супраць іх усё места; на чале нездаволеных, як відаць, стаяў Аляксей Сбыславіч; брат пасаднікаў, Барыс Мірошкініч, паехаў да Ўсевалада і зьвярнуўся з Уладзіміра з баярынам Усеваладавым, Лазарам, каторы прывёз загад забіць Аляксея Сбыславіча, і загад быў споўнены: Аляксея забілі на Яраслававым дворы — бязь віны, — дадае летапісец, — бо звычайнае умовы з князем — не караць бязь віны, ня было ўжо. Усевалад загадваў сваім адумам у Ноўгарадзе» [14].

Цяпер, па якімсь часе, Ноўгарадцы дамагаліся, каб Усевалад забраў з Ноўгараду Кастанціна. Усевалад, адылі, паслаў узноў да Ноўгараду свайго сына, Сьвятаслава, каторы ўперад там «княжыў». Але «сын Усеваладаў, як добра кажа Салаўёў, якбы ён ня зваўся, Кастанцін ці Сьвятаслаў, ня мог абходзіцца з Ноўгарадцамі, як абходзіліся зь імі ранейшыя князі» [15], князі беларускія. Нездаволеныя паслалі да Тарапца (удзельнага места Смаленскага княства) прасіць тамашняга князя Імсьціслава, сына слаўнага Імсьціслава Харобрага, выбавіць Ноўгарад ад суздальскіх уціскаў. Імсьціслаў згадзіўся. Ён захапіў сьпярша ноўгарадзкае места Таржок, званы яшчэ Новым Торгам, закаваў у зялезьзі дваран Сьвятаслававых і пасаднікаў; тады паслаў сказаць Ноўгарадцам: «Кланяюся Сьвятой Софіі (гэтак зваўся сабор у Ноўгарадзе) і гробу айца майго, і ўсім Ноўгарадцам: прыйшоў я да вас, пачуўшы пра ўціскі, каторыя вы цэрпіце ад князёў, жаль мне зрабілася сваіх айчыны». З Ноўгараду прыйшло да яго пачэснае пасольства із словамі: «Хадзі, княжа, на пасад», а Сьвятаслава Ўсеваладзіча Ноўгарадцы заперлі ў архіяпіскапскім доме разам із дружынаю датуль, пакуль не памірацца з бацькам. «І радыя былі Ноўгарадцы», — дадае летапісец.

Імсьціслаў прыехаў да Ноўгараду, дзе быў прыняты зь вялікай радасьцю, і без адвалокі пусьціўся да Таржка, бо Ўсевалад захапіў купцоў ноўгарадзкіх па сваіх воласьцях і паслаў сыноў з войскам да ноўгарадзкіх граніцаў; але бітвы ня было; Усевалад сьцярогся пачынаць няпэўную бітву зь беларускімі князямі. Ён уступіў, паводля летапісца, ён прыслаў сказаць Імсьціславу словы, яму зусім зразумелыя: «Ты мне сын, а я табе ацец (Усевалад быў старшы векам за Імсьціслава); выпусьці Сьвятаслава з дружынаю і аддай усё, што захапіў, а я таксама выпушчу купцоў і тавары іхныя». Імсьціслаў згадзіўся, і мір быў зроблены.

Дык і Ўсевалад, як ягоны брат Андрэй быў пераможаны князямі зь Беларусі і ня мог ужыцьцёвіць сваіх імкненьняў: «войскі Андрэевы ўцяклі із сорамам ад Імсьціслава-айца, а Ўсевалад мусіў уступіць Ноўгарад Імсьціславу-сыну і мусіў загаварыць зь ім ягонай моваю» [16].

Зь мірнай дзейнасьці Імсьціслава ў Ноўгарадзе адцемлю,

# Рэгабілітацыя Ўладзімера Дубоўкі

У менскай газэце «Літаратура і Мастацтва» (№ 22 за 15 сакавіка сёлета), у кронікарскай справаздачы «На паседжаньнях прэзыдыюму СП БССР» знаходзім наступную кароткую інфармацыю: **«У члены Саюзу пісьменьнікаў БССР прыняты паэта Ул. Дубоўка і адноўлены ў правох члена СП паэта Ул. Хадыка».**

Гэтая ляканічная зацемка гаворыць вельмі многае.

Як ведама, ад пачатку хрушчоўскае «адлігі» ў 1956 годзе і да апошняга часу было рэгабілітавана звыш дваццаёх беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў, у свой час «зьліквідаваных», як «нацдэмаў», «буржуазных нацыяналістых» і «ворагаў народу». Гэты жудасны ліквідацыйны пэрыяд пачаўся зь першым завойстраным паходам чырвонае Масквы супраць беларускай нацыянальнай культуры ў 1930 годзе і завяршыўся канцовай фазай яжоўшчыны ў 1938 годзе. Вялікая часьць паэтаў і пісьменьнікаў, што дазнала рэгабілітацыйнае ласкі, была рэгабілітаваная пасьмертна. Гэта тыя, што няператрывалі жахлівых мукаў у турмах ды канцэнтрацыйных лягерах Сібіру й запалярнай Поўначы й передчасна адыйшлі на той сьвет або проста былі на сьмерць замучаныя ў падвалах ГПУ-НКВД. Другую групу рэгабілітаваных складалі тыя, якія ўсё-ж перажылі гэтыя мукі й фізычны тэрор. Яны сяньня маюць магчымасьць друкавацца ў БССР, а бальшыня іх вярнулася ў Беларусь і ўзнавіла сваю працу на літаратурнай ніве.

Але амаль усе з дагэтуль рэгабілітаваных — гэта людзі, што асабліва моцна ня правініліся перад камуністычнай сыстэмай, як такой, а толькі не адказвалі нацыянальным характарам свае творчасьці тагачаснаму, асабліва завойстранаму бальшавіцкаму курсу, або навет, хоць магчыма ў мяншыні сваей, сталіся ахвярамі азьвярэлага бальшавіцкага тэрору дзякуючы чыстаму прыпадку.

Таму ў пэрыяд дэтранізацыі Сталіна й звальваньня на яго галоўнае віны за шалёны бальшавіцкі тэрор трыццатых гадоў рэгабілітацыя вышэй абазначанай групы паэтаў і пісьменьнікаў ня была чымсьці неспадзяваным. Наадварот, яна была лягічным вывадам з сытуацыі, што стварылася ў сувязі з новым тактычным курсам пасьлясталінскага пэрыяду. Гэта тым болей, што амаль усе былі рэгабілітаваныя толькі часткова. Далёка ня ўсе творы рэгабілітаваных аўтараў сяньня перавыдаюцца, але яны й не ўспамінаюцца ў БССР. Найбольш цяжкія «праступкі», што былі зробленыя ня толькі ў дачыненьні да тагачаснага палітычнага курсу, сяньня адмененага, але й да самой бальшавіцкай сыстэмы, не забытыя гэтым рэгабілітаваным пісьменьнікам і сяньня.

Гэтак старшыня Саюзу пісьменьнікаў БССР Пятрусь Броўка, у сваім дакладзе на 3-ім пленуме праўленьня Саюзу пісьменьнікаў БССР, што адбыўся 18 і 19 сакавіка 1957 году ў Менску, выказваючы свае задаваленьне з факту рэгабілітацыі многіх пісьменьнікаў, не забыўся прыпомніць і наступнага: **«Але мы не павінны забывацца і на ідэялягічныя памылкі, зробленыя ў свой час некаторымі зь іх, гаворку аб якіх ніяк ня выкінеш зь гісторыі разьвіцьця нашае літаратуры».** Іншым прыкладам толькі частковай рэгабілітацыі можа служыць Цішка Гартны (Зьмітра Жылуновіч). Ён быў рэгабілітаваны толькі як пісьменьнік, але ня рэгабілітаваны да апошняга часу, як палітычны дзеяч, навет як першы старшыня саўнаркому абвешчанай 1 студзеня 1919 году Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусі (гэтак тады называлася БССР).

Але спасярод дагэтуль рэгабілітаваных Уладзімер Дубоўка, падобна як рэгабілітаваны ў 1956 годзе Язэп Пушча, — аб якім будзе мова ніжэй — займае асобнае месца. Дубоўка, як ведама, быў адным із заснавальнікаў і галоўным ідэйным і мастацкім правадыром паўсталага ў 1926 і зьліквідаванага ў 1931 годзе беларускага літаратурна-мастацкага згуртаваньня «Ўзвышша», якое было глыбока нацыянальным і ярка апазыцыйным ня толькі ў дачыненьні да бягучае савецкае палітыкі ў БССР, але і ўсяе савецкае сыстэмы й камуністычнае дактрыны наагул. А спасярод усіх узвышэнскіх паэтаў гэты нацыянальны апазыцыянізм, пераважна маскаваны пад рознымі й разнаякімі формамі мастацкай крыптаграфіі, наймацней і найглыбей праявіўся якраз у творчасьці Дубоўкі й Пушчы. Гэта й сталася галоўнай прычынай іхнай «ліквідацыі».

Дубоўка быў арыштаваны ў 1930 годзе й высланы на пяць год у былую Вяцкую губэрню блізка Ўралу, адкуль у 1934 годзе быў перавезены ў Чувашскую Аўтаномную Рэспубліку. Пасьля адбыцьця пакараньня, Дубоўка дастаў дадаткова два гады высылкі. У часе разгару яжоўшчыны ў 1937 г. паэта быў узноў арыштаваны, і ад гэнага часу сьлед па ім загінуў. Сярод Беларусаў панавала думка, што Дубоўкі няма ў жывых.

Справа рэгабілітацыі Ўладзімера Хадыкі выплыла яшчэ ў 1956 годзе, а ў пачатку 1957 г. на ўспомненым 3-ім пленуме праўленьня Саюзу савецкіх пісьменьнікаў БССР П. Броўка даў яму наступную ацэну: **«Я хачу спыніцца на тым, як ацэньваецца ў нас творчасьць Ул. Хадыкі. Мы ўсе, яго сучасьнікі і таварышы, добра знаем Хадыку, як паэта. Знаем, як паэта здольнага. Але ведаем і тое, што некаторым ягоным вершам былі ўласьцівы і нацыяналістычныя настроі. Але ён сам імкнуўся пазбавіцца ад фармалістычнага ўплыву і, дарэчы, у вапошні час пачаў пісаць больш выразна.»**

Усё гэта сьветчыла толькі аб рэгабілітацыі Хадыкі, але яшчэ не пацьвярджала, што паэта жызе. Затое сьвежая інфармацыя «Літаратуры і Мастацтва», што Хадыка «адноўлены ў правох члена СП БССР», разьвейвае ўсякія сумляваньні.

Варта прыгадаць, што сярод Беларусаў у вольным сьвеце панавала перакананьне, што Хадыка загінуў у ссылцы. Аб гэтым гаворыць праф. Ант. Адамовіч у выдадзенай сёлета мюнхэнскім Інстытутам для Вывучэньня СССР ангельскай моваю кніжцы «Opposition to Sovietisation in Belorussian Literature» (бач. 173). А яшчэ ў 1952 годзе на бачынах ньюёрскага «Беларуса» пісьменьнік Юрка Віцьбіч у артыкуле «І гарыць вачыма карымі горкі прыпамін» прывёў вэрсію, што 12 траўня 1940 году Хадыка, адбываючы зьняволеньне ў савецкім канцэнтрацыйным лягеры над Байкалам, быў забіты аськепкам скалы, што звалілася на ягоную галаву пры пабудове чыгункі.

Але вернемся да Дубоўкі. Нас павінна зацікавіць пытаньне, дзеля якіх матываў задумалі бальшавікі рэгабілітаваць свайго наважанага ідэялягічнага ворага, і пытаньне, **як будзе змушаны** рэагаваць сам Дубоўка на сваю рэгабілітацыю? На словы «як будзе змушаны» мы кладзём асаблівы націск.

Справа рэгабілітацыі ў 1956 годзе іншага вядучага ўзвышэнца Язэпа Пушчы, які ў «Узвышшы» адыйграў другую пасьля Дубоўкі ролю, а ў сваей творчасьці выказваў ня менш за апошняга антысавецкія ідэі ды быў ня меней за яго прасякнуты беларускім нацыянальным духам, памагае нам адказаць на вышэй пастаўленае пытаньне.

Як і Дубоўка, Пушча быў арыштаваны ў 1930 годзе й высланы на Урал на пяць год. Пасьля адбыцьця пакараньня жыў у розных мясцовасьцях на паўдні Савецкага Саюзу, але зь літаратуры быў выкінуты. Тымчасам у кастычніцкім нумары «Полымя» за 1955 год быў надрукаваны ягоны санэт «Адаму Міцкевічу», які, паводля сваей палітычнай тэндэнцыі, быў «нэўтральным» і стаўся пачаткам рэгабілітацыі паэты. Але наступныя творы Пушчы, друкаваныя ў 1957 годзе ў тымжа «Полымі», раскрываюць нам увесь сакрэт ягонай рэгабілітацыі.

У ўзвышэнскую пару апазыцыйнасьць у дачыненьні да савецкае сыстэмы найбольш яскрава праявілася ў глыбокім патрыятызьме творчасьці Пушчы і ў станоўкай абароне перад русыфікацыйным наступам. Добра ўсьведамляючы небясьпеку русыфікацыі, якая была рэальнай загрозай нацыянальнай эгзыстэнцыі беларускага народу, Пушча, як мала хто ў такой ступені, найбольшае астрыё сваіх твораў сьціраваў якраз супраць русыфікатарскае палітыкі Масквы. Гэта было дамінуючым ідэялягічным матывам творчасьці Пушчы да часу ягонае «ліквідацыі».

Затое ў ягоных вершах, напісаных пасьля рэгабілітацыі, гучаць зусім іншыя й супярэчныя ўзвышэнскай творчасьці мэлёдыі. Найбольш характэрны з гэтага гледзішча верш «Песьня песень», надрукаваны ў ліпеньскім нумары «Полымя» за 1957 год. Верш пачынаецца й канчаецца наступнай нязвычайна вымоўнай звароткай:

> Хоць сьнегам бор занесен,
> А сонца — ў небе сінім.
> Сьпяваю Песьню песень
> І сонцу, і Расіі.

Апрача гэтага, верш перапоўнены такімі выражэньнямі, як «мой родны Пушкін», як паэта, сустракаючы расейскую вясну, ідзе «душу сагрэць, напіцца сьвежай сілы», як ягонае сэрца Расіі «век ня здрадзіць», бо яна для паэты — «мая ты радасьць». Падобныя русафільскія настроі знаходзім і ў вершы «Сяргею Есеніну», зьмешчаным у тым-жа нумары «Полымя».

Гэтыя высокапарныя эпітэты Расеі, якой паэта пяе сваю «Песьню песень», маюць нядвузначную вымову. Сваю варожасьць да расейшчыны й Расеі, якую шырака выказаў у ўзвышэнскай творчасьці, сяньня паэта змушаны акупіць шумнымі гымнамі ў чэсьць тэй-жа Расеі й расейшчыны.

Дубоўка і Пушча былі найбольш выдатнымі і ўплывовымі сярод тых беларускіх нацыянальных паэтаў дваццатых гадоў, якія абсалютна ня сплямілі сябе, хоць-бы й ня шчыра й адно толькі дзеля маскаваньня выказванымі, прасавецкімі й пракамуністычнымі акцэнтамі. Таму яны і іхная творчасьць сталіся найбольш яркімі сымбалямі беларускага нацыянальнага супраціву як бальшавізму, гэтак і русыфікатарскаму наступу. Вымазаныя з бачынаў гісторыі беларускае літаратуры ў Саветах, яны шырака папулярызаваліся сваімі суродзічамі ў вольным сьвеце, выстаўляліся, як узорныя прыклады нацыянальнай непахіснасьці й сталіся ўлюбленым прадметам літаратурных дасьледаваньняў. Гэты прынцыпова нацыянальны й станоўча антысавецкі характар творчасьці й вызначыў абодвым ролю ідэйных прадстаўнікоў у літаратуры беларускага нацыянальнага руху дваццатых гадоў, ролю, якую перад імі адыгрывалі Купала й Колас.

Падобна як Купалу й Коласа патрапілі бальшавікі пры помачы выпрабаваных спосабаў духова зламаць у пачатку трыццатых гадоў і вымусіць ад іх бессаромныя хваласьпевы ў чэсьць зьненавіджанай імі бальшавіцкай сыстэмы ды аплёўваць усё тое, што было для іх найдаражэйшым, гэтак робяць сяньня з Пушчам, вымушаючы ад яго такія-ж хваласьпевы ў чэсьць Расеі й камунізму. Трэба чакаць, што такім-жа тонам будзе змушаны запяяць хутка і Дубоўка, былы лідэр «Узвышша», а сяньня сябра казённага Саюзу пісьменьнікаў БССР. У іншым выпадку ягоная рэгабілітацыя ня мела-б для бальшавікоў ніякага сэнсу, падобна як і ранейшая рэгабілітацыя Пушчы.

Подлая ў сваей істоце й цынічная формай бальшавіцкая практыка ў дачыненьні да паняволенага беларускага народу й ягоных найлепшых прадстаўнікоў бесьперапынна паўтараецца.

**Ст. Крушыніч**

---

# Шляхам нявольніцкага паслухмянства

(Заканчэньне з 4-ай бачыны)

**Дзьвіны, Дняпра, Прыпяці й заходняга Бугу** й высьпявае ідэя рашучага змаганьня за злучэньне з Маскоўшчынай, з народам супольных нацыянальных інтарэсаў і аднае культуры.

Што-ж атрымоўваецца? Папершае, зь гісторыі беларускага народу выкідаюцца слаўныя часы Рогвалада, Брачыслава й Усяслава Чарадзея (X—XI стст.), Смаленскае й Ноўгарад-Северскае (раней Чарнігаўскае) княствы, часы Міндоўга, Гедыміна й Альгерда ды навет уся гісторыя Вялікага Княства Літоўскага, бо яны як-бы не належаць да гісторыі беларускага народу. Падругое, пазбавіўшы беларускі народ свае гісторыі, штучна ствараецца беларуская народнасьць зь як-бы апрычонай сваей культурай і ў той час пародненая з расейскай народнасьцяй і культурай. Патрэйцяе, увесь гістарычны беларускі працэс паказаны як працэс неразрыўных імкненьняў беларускага народу да злучэньня з сваім братам — расейскім народам.

Зачараванае кола дыялектыкі зьяўляецца накіраванае на адмаўленьне гістарычных правоў народу. Чаму не сказаць коратка й выразна: беларускі народ — народ бязь гісторыі, а значыцца ён штучна створаны народ.

Вось каб толькі ня гэтае але: беларускі народ існуе, ён-жа дамагаецца сваіх правоў на гэтае існаваньне. Хоць і «дзіўным» чынам, але ён меў **калісьці** сваю высока разьвітую культуру, заместа зразу падаць руку свайму «старэйшаму» брату, ён на працяту многіх стагодзьдзяў частаваў яго акрываўленым кап'ём і мячом. Цікава было-б знаць, на працягу колькіх стагодзьдзяў штурмаваліся беларускія цьвярдыні Полацак, Віцебск, Смаленск, Бранск, Магілёў, Мсьціслаў, Менск і г. д. сьпярша Кіевам, а пасьля Маскоўшчынай? А яны-ж былі заселеныя Беларусамі, а ня Летувісамі й Палякамі.

Як разьвяжуць гэтае пытаньне нашыя нявольнікі-навукоўцы з БССР?

**П. Залужны**

---

## БЕЛАРУСЬ І ДОСТУП ДА МОРА

Прэсавае агенцтва «Асошыэйтэд Прэс» падало было вестку (гл., прыкл., «Нью-Ёрк Таймс» ад 11 лютага 58 г.) аб тым, што краі, якія ня маюць доступу да мора, зьехаліся былі ў Жэнэве 10 лютага сёлета, каб выпрацаваць супольную палітыку. Нарада гэтая, што трывала два тыдні, была прэлюдыяй на шырэйшае шматнацыянальнае канфэрэнцыі, якую меліся склікаць тамсама 25 лютага ды дайсьці да агульнае згоды што да міжнароднага права карыстацца морам.

Швайцарац Паўль Ругер, калішні старшыня Камітэту Міжнароднага Чырвонага Крыжу, быў абраны за прэзыдэнта гэтага зьезду.

Апрача Швайцарыі, на канфэрэнцыі былі рэпрэзэнтаваныя: Аўстрыя, **Беларусь**, Вугоршчына Чэхаславаччына, Люксэмбург, Сан Марыно, Ватыкан, Балівія й Нэпаль.

---

што ён разам з Ноўгарадцамі ськінуў япіскапа ноўгарадзкага Мітрахвана; гэтага-ж адвялі да места Імсьціслававага, Тарапца. Прычына была ў наступным. Кажнага новага япіскапа Ноўгарадцы абіралі на вечы і тады пасылалі паставіць да мітрапаліта. Прымеж таго Ўсевалад, ня пытаючыся ў Ноўгарадцаў, паслаў за япіскапа да Ноўгараду свайго чалавека Мітрахвана, каторы запраўды быў там ягоным агентам.

У 1215 г. Імсьціслаў самахоць, дзеля сваіх справаў, пакінуў Ноўгарад. Тады Ноўгарадцы, па доўгіх нарадах, пастанавілі паслаць па Яраслава Ўсеваладзіча, князя Пераяслаўля Суздальскага (Усевалад памёр у 1212 г.).

Ноўгарадцы адылі борзда зьнялюбілі новага князя. Яраслаў, прыехаўшы ў Ноўгарад, схапіў двух баяр і, закаваўшы ў зялезьзі, паслаў іх да Цьверы ў турму; перад ім абмовілі ноўгарадзкага тысячніка Якуна Намнежыча; Яраслаў склікаў супраць яго веча на Яраслававым двары. Веча, што скаладалася з прыхільнікаў князя, кінулася грабіць Якуноў двор, схапілі ягоную жонку. Сам Якун усьпеў схавацца, але на трэйці дзень разам з пасаднікам зьявіўся да князя, і гэты загадаў схапіць яго разам із сынам. Пасьля гэтага жыхары Прускае вуліцы, помсьцячыся за Якуна, забілі двух князевых прыхільнікаў. Яраслаў пабаяўся далей заставацца ў Ноўгарадзе. Ён пераехаў да Таржка (у 1215 г.), а да Ноўгарада паслаў свайго намесьніка.

Таржок або Новы Торг стаўся супарам Ноўтараду. Гэтае ўдзельнае места, з прычыны свайго шчасьлівага палажэньня, сталася пасярэднікам у гандлі свае мэтраполіі із Суздальшчынаю, і суздальскія князі зьвярнулі на гэта ўвагу. Таржок рос і багацеў ад гандлю, і шмат якія ноўгарадзкія купцы туды перасяліліся; памалу ў наватаржан зьявіліся свае інтарэсы, незаўсёды згодныя зь інтарэсамі мэтраполіі. Залежнасьць ад Ноўгараду была няпрыемная Новаму Таргу яшчэ і дзеля таго, што была зьвязаная з ваеннай небясьпечнасьцяй з прычыны пагранічнага палажэньня гэтага места. Суздальскія князі, у прыпадку вайны з Ноўгарадам, нападалі й грабілі Новы Торг. Іхныя князі ў Ноўгарадзе, павадзіўшыся зь местам, займалі Новы Торг, куды лёгка магла падыйсьці памога із Суздальскае зямлі. Ад Новага Торгу залежала цэлая воласьць, і яна, у прыпадку займа места, адыходзіла ад Ноўгараду.

Засеўшы ў Таржку, Яраслаў пачаў імсьціцца на Ноўгарадцах. Мароз памарозіў збожжа ля Ноўгараду, а каля Таржка ўсё засталося цэлае. Яраслаў заняў дарогу, ня пушчаў ані возу да Ноўгараду. Ноўгарад паслаў да яго пасольства, каторае задзержыў у сябе. Прымеж таго ў Ноўгарадзе голад павялічаўся: кадушку жыта куплялі па дзесяць грыўняў, аўса па тры грыўні, воз рэпы па дзьве грыўні; людзі елі хвойную кару, ліповае лісьце й мох, аддавалі сваіх дзяцей у вечную няволю. З голадам прыйшла пацярэбшчына — мор. Пабудавалі новую трупярню, і яна борзда напоўнілася трупамі, на рынку валяліся трупы, па полю трупы, сабакі не пасьпявалі зьядаць іх; бальшыня Важан памерла з голаду, засталыя разьбегліся па чужых краёх: гэтак разышлася нашая воласьць і нашае места ! — кажа летапісец. Ноўгарадцы, што засталіся жывыя, паслалі да Яраслава пасадніка і іншых важных людзей клікаць яго ўзноў да сябе; ён загадаў задзяржаць і гэтых, а замест адказу паслаў да Ноўгараду двух сваіх баяр вывесьці адтуль жонку сваю, дачку Імсьціслава Ўдалага. Наапошку, Ноўгарадцы паслалі да Яраслава паслоў з гэткім апошнім словам: «Княжа! Ідзі да свае айчыны, да Сьвятое Софіі, а ня йдзеш, то скажы шчыра». Яраслаў і гэтых паслоў не адпусьціў, задзержыў і ўсіх ноўгарадзкіх купцоў, і былі ў Ноўгарадзе смутак і галашэньне», — кажа летапісец.

Тады, пачуўшы пра такое ліха, Імсьціслаў Удалы зьявіўся да Ноўгараду 11-га лютага 1216 г. Ён схапіў Яраслававага намесьніка і закаваў у зялезьзі ўсіх ягоных дваран. Тады паехаў на Яраславаў двор і прысягнуў Ноўгарадцам і яны яму — ніколі не расставацца: «або зьвярну мужоў ноўгарадзкіх і воласьці, або галаву палажу за Ноўгарад», — сказаў Імсьціслаў.

Калі Яраслаў даведаўся, што Імсьціслаў у Ноўгарадзе, то, умацаваўшы Таржок, загадаў зрабіць засекі па ноўгарадзкай дарозе і па рацэ Цьверчы, а да Ноўгараду ён паслаў сто Ноўгарадцаў, што здаваліся быць ягонымі прыхільнікамі, з паручэньнем падняць праціўную Імсьціславу старану і вывесьці яго зь места. Але й гэтыя сто чалавек, як толькі прыехалі да Ноўгараду, дык разам з усімі іншымі былі за Імсьціслава, каторы паслаў да Таржка сьвятара сказаць Яраславу: «Сыну! Кланяюся табе: людзей маіх і купцоў выпусьці, з Таржка выйдзі і зы мной памірыся». Гэтае пасуленьне не падабалася Яраславу, ён адпусьціў сьвятара бязь міру. Гэтага ня досыць: усіх Ноўгарадцаў, баяр і купцоў, што былі ў Таржку, лікам взыш 2.000 ён склікаў на поле за места, загадаў схапіць іх, закаваць у зялезьзі і разаслаць па суздальскіх мястох, маемасьць іхную і коней раздаў сваім. Ведамка пра гэта вельмі засмуціла Ноўгарадцаў; іх заставалася мала: лепшыя людзі былі схопленыя Яраславам, а зь меншых адныя разышліся, другія памерлі з голаду; але Імсьціслаў не безнадзеіўся, ён склікаў веча на Яраслававым двары і сказаў народу: «Пойдзем па людзей сваіх, вашых братоў, і па воласьці свае. Хай ня будзе Новы Торг Ноўгарадам, ані Ноўгарад Таржком, але дзе Сьвятая Софія, там і Ноўгарад. І з мноствам Бог, і з малым лікам Бог і праўда».

Веча было ў канцы лютага, а 1-га сакавіка на Новы Год, паводля тагачаснага лічэньня, выступіў Імсьціслаў із Ноўгарадцамі супраць Яраслава. Калі Імсьціслаў увайшоў у сваю Тарапецкую воласьць, то загадаў Ноўгарадцам назьбіраць у ёй еміны людзям і пошару коням. Калі дайшлі вышнявіны Волгі, то атрымалі ведамку, што брат Яраслава, Сьвятаслаў Усеваладавіч ізь дзесяцітысячным войскам аблёг места Імсьціслава, Ржэў, дзе пасаднік Ярун бараніўся ад яго із сотняю чалавекаў. У Імсьціслава з братам Валадзімерам Пскоўскім (Пскоў прыслаў памогу) было ўсяго 500 чалавек войска. Але дарма! Яны пайшлі бараніць Ржэў, і Сьвятаслаў пабег ад яго, не дачакаўшыся Імсьціслава з войскам. Імсьціслаў пайшоў далей і заняў Зубцоў. Ля ракі Вазуры дагнаў яго брацені Валадзімер Рурыкавіч Смаленскі із сваімі палкамі. Не зважаючы на так значнае павялічэньне свайго войска, Імсьціслаў не хацеў ісьці далей, і стаўшы ля ракі Халахольні, паслаў да Яраслава зь мірнымі пасуленьнямі, але гэты загадаў адказаць: «Міру не хачу; пайшлі, дык і йдзеце далей; на аднаго вашага прыдзецца па сто нашых». Расьціславічы, атрымаўшы такі адказ, сказалі адзін аднаму: «Ты, Яраслаў ізь сілаю, а мы з крыжам сьвятым» — і пачалі думаць, куды пайсьці далей. Ноўгарадцы, каторым наўперад хацелася ачысьціць ад непрыяцеля сваю воласьць, умаўлялі князёў ісьці да Таржка, але гэтыя адказалі ім: «Калі пойдзем да Таржка, то папустошым ноўгарадзкую воласьць, пойдзем валей да Пераяслаўля: там у нас ёсьць трэйці прыяцель». Расьціславічы былі пэўныя, што Кастанцін Ростаўскі задзіночыцца зь імі супраць малодшых братоў. (Кастанцін Усеваладавіч быў укрыўджаным тым, што будучы старшым, не атрымаў пасаду вялікага князя суздальскага; дзеля таго ён быў у звадзе із сваімі братамі). Яны пайшлі ў бок Цьверы і пачалі браць сёлы і паліць іх, а пра Яраслава ня ведалі, дзе ён— у Таржку ці ў Цьверы? Пачуўшы, што Расьціславічы ваююць цьверскія сёлы, Яраслаў выехаў з Таржка да Цьверы, узяўшы із сабою старшых баяр і Ноўгарадцаў, маладых выбраўшы, а наватаржан усіх; паслаў сто чалавек з гакам выбаровых людзей у старожу. Але за 15 вёрстаў ад места, 25-га сакавіка, наехаў на іх вайвода Імсьціслава Ярун із маладой дружынаю, трыццаць трох чалавек узяў у палон, семдзесят палажыў на месцы, засталым удалося ўцячы да Цьверы.

Дасягнуўшы гэтае першае ўдачы, якая дала воям іхным магчымасьць бязь перашкоды зьбіраць еміну, Расьціславічы паслалі смаленскага баярына Яволада да Ростава, да князя Кастанціна Ўсеваладзіча зваць яго да хаўрусу супраць ягоных братоў. Прапушчаць пасла да граніцы прызначылі Валадзімера Пскоўскага з Псковічамі й Смальнянамі, а самі пайшлі далей, папалілі сёлы ля рэкаў Шошы й Дубны. Прымеж таго Валадзімер Пскоўскі ўзяў места Канстанцінаў (Ксмяцін) ля ўтоку вялікай Мерлі і спаліў усё Узволжа. Кастанцін Ростаўскі не забавіўся з адказам: ён паслаў вайводу свайго Ерамея сказаць Расьціславічам: «Князь Кастанцін кланяецца вам; узрадаваўся

# Першы Усебеларускі Кангрэс

## 18-31 (5-18 ст. ст.) сьнежня 1917 г.

*Успаміны Дэлегата Кангрэсу*

**(Працяг з папярэдняга нумару)**

### 5. На Кангрэсе

Старшынём Кангрэсу быў др. Янка Серада, чалавек палітычнага розуму й дыпляматычных здольнасьцяў. Магчыма што дзякуючы ягонай пільнасьці й разважлівасьці праца Кангрэсу была даведзеная да пажаданых вынікаў.

Склад дэлегатаў ахопліваў усе пласты насельніцтва Беларусі: сялянства, работнікаў, службоўцаў, уцекачоў; асабліва шмат было вайскавікоў, пераважна моладзі. Гэта былі тыя самыя сяляне, работнікі, інтэлігенты, толькі адзетыя ў салдацкія шынэлі. Гэтыя дэлегаты былі прадстаўнікамі ад розных беларускіх палітычных партыяў і групаў: Беларускія Сацыялістыя-Рэвалюцыянэры, Беларуская Сацыялістычная Грамада, Беларуская Народная Грамада, Беларускія Сацыялістыя-Дэмакраты, Беларускія Рэспубліканцы, Абласьнікі (Віцебскае й Магілёўскае зямляцтвы - сэкцыі «Всеросийского Союза»), беларускія бальшавікі і бадай што найбольшая група беспартыйных, якая складалася пераважна зь беларускай вайсковай моладзі й сялян.

Кангрэс меў характар парляманту. Апрача прэзыдыюму, была рада старэйшых або лідэраў. Дэлегаты былі падзеленыя на сэкцыі або камісіі. Адбываліся нарады лідэраў, нарады камісіяў, нарады партыяў і групаў і пленарныя паседжаньні. Сталай сядзібай Кангрэсу быў дом былага Шляхоцкага Збору. Прадстаўнікі розных беларускіх партыяў і групаў і беспартыйныя Беларусы трымаліся аднаго палітычнага кірунку. Яны стаялі супраць бальшавізацыі Беларусі, за самастойнасьць і незалежнасьць Беларусі ў ейных этнаграфічных межах.

Ня шкодзіць успомніць аб паводзінах на Кангрэсе Абласьнікоў. Гэта была бадай што адзіная апазыцыя на Кангрэсе. Гэтае аб'яднаньне было невялікае, але грызьлівае. Летам 1917 году ў Петраградзе ўтварылася «Сялянскае Аб'яднаньне Расеі». У ягоным складзе былі й прадстаўнікі Віцебскай і Магілёўскай губэрняў. Яны там утварылі «Землячество Северо-Западной Области России», адсюль і паўстала назва «абласьнікі». Абласьнікі былі прадстаўнікамі ўсіх расейскіх палітычных партыяў ад бальшавікоў да чорнасоценцаў-манархістых. Іх вязала ў вадну групу варожасьць да беларускага нацыянальнага адраджэньня, бо ўсе яны былі агентамі расейскага імпэрыялізму.

Паводля паходжаньня ў бальшыні яны былі Беларусы, але вельмі варожа ставіліся да беларускіх незалежнікаў. Яны ня прызнавалі ні беларускай мовы, ні культуры. Калі хто з дэлегатаў пачынаў прамаўляць пабеларуску, дык яны шалелі ад злосьці. Асабліва яны ня любілі беларускага дзеяча нашаніўца Аляксандры Бурбіса. Калі толькі Бурбіс пачынаў прамаўляць пабеларуску, дык абласьнікі крычалі й лаяліся, каб перабіць яго, а ён апраўдваўся словамі: «Чаго-ж вы крычыцё? Я прадстаўнік ад мільёну Беларусаў». Ён быў старшынём Беларускай Уцякацкай Грамады, цэнтраля якой месьцілася ў Маскве. А Беларусаў уцекачоў было каля мільёна. Калі аднаго разу пры выбары нейкай камісіі высунулі кандыдатуру ўцекача родам з Горадзеншчыны Станіслава Тысецкага, дык абласьнікі, пачуўшы імя «Станіслаў», абурыліся й справілі гвалт. Яны патрабавалі, каб Тысецкага зусім пазбавіць мандату таму, што ён каталік. Ён апраўдваўся тым, што ягоная жонка й дзеці праваслаўныя і што ён падчас жанімства шлюб браў у праваслаўнага сьвятара. Тады яны супакоіліся.

На адным пленарным паседжаньні абласьнікі ўнесьлі прапанову, каб на Беларусі пануючай рэлігіяй была праваслаўная рэлігія, бо праваслаўнага насельніцтва ў Беларусі бальшыня. Супраць гэтае тэзы Тамаш Грыб высунуў сваю тэзу, што будучая Беларусь сьцісла павінна быць вераталерантнай, як і ў старадаўнія часы. Школа павінна быць аддзелена ад царквы, а царква ад гаспадарства і што ў будучай Беларусі палітычныя й рэлігійныя эмігранты павінны мець прытулак і гасьціну. Прапанову Грыба дэлегаты прынялі гучнай авацыяй.

Аднаго разу абласьнікі патрабавалі, каб зь імі лічыліся на Кангрэсе, як з адзінымі прадстаўнікамі Віцебскай і Магілёўскай губэрняў. Вайсковая моладзь з тэтых губэрняў супраць гэтага запратэставала. Калі мандатная камісія падлічыла дэлегатаў гэтых губэрняў, дык выявілася, што дэлегатаў вайскавікоў, сялян і работнікаў ад гэтых губэрняў, не належачых да абласьнікоў, шмат больш, як усіх абласьнікоў. Пасьля гэтага на адным пленарным паседжаньні дэлегат Віцебшчыны К. Езавітаў выказаўся, што ў сям'і Віцяблян ёсьць выродкі і ад гэтага няпрыемна ўсім ім, і тут дадаў прыказку, што адна паршывая авечка ўсё стада брудзіць. Абласьнікі абурыліся й пагражалі пакінуць Кангрэс назаўсёды, калі Езавітаў ня возьме свайго слова назад. Езавітаў папрасіў слова і выказаўся, што калі дэлегаты Кангрэсу пажадаюць, дык ён возьме словы назад, але перапрашаць абласьнікоў ня будзе, бо яны зьняважылі ўсіх Віцяблян, калі яны, будучы ў мяншыні, хацелі накінуць сваю волю бальшыні.

Аднаго разу ўжо пад канец Кангрэсу прыехаў новы дэлегат сьвятар ад Віцебскай губэрні. Ён у палкай прамове прывітаў Кангрэс ад імя «Витебского Совета Крестьянских, Рабочих и Солдатских Депутатов». Добра прыпамінаю адно месца ягонай прамовы: «Великороссы, малороссы и белоруссы составляют единый и неделимый русский народ. Как нельзя Святой Тройцы поделить на три отдельных божества, так нельзя русского народа — этой святой тройцы разделить на три отдельные народы». Ён гаварыў доўга, даводзячы, што беларускага народу няма, што ўсё гэта выдумка ворагаў «единой и неделимой святой Руси». Паводля дакумэнтаў, дык гэта быў бальшавіцкі агент, а паводля зьместу прамовы, чарнасоценец. Сярод моладзі пачаўся шум і хваляваньне. Старшыня заклікаў да супакою і цярплівасьці. Аратар часта паклікаўся на волю Віцебскага Савету Работніцкіх, Сялянскіх і Салдацкіх Дэпутатаў (значыцца, бальшавіцкай арганізацыі). Тут Т. Грыб ня вытрываў і выгукнуў: «Ура! Поп бальшавік!» Гэты прамоўца зышоў з трыбуны і проста падаўся за дзьверы. Толькі яго й бачылі.

Групка беларускіх бальшавікоў на Кангрэсе ня выступала із сваімі патрабаваньнямі. Лідэрам яе лічыўся Зьмітра Жылуновіч. Калі аднаго разу выступалі ўсе лідэры із сваімі праграмнымі патрабаваньнямі, дык Жылуновіч на паседжаньне не зьявіўся, а даручыў свае абавязкі свайму заступніку Фальскаму, а Фальскі адмовіўся выступаць з прамовай, бо яму патрэбна было рыхтаваць хор да канцэрту. Ён перадаў лідэрства Ф. Шантыру, які адмовіўся выступаць быццам затое, што позна быў аб гэтым паведамлены і ня быў падрыхтаваны. Гэтая справа выглядала так: Некаторыя мала сьвядомыя Беларусы на вялікіх петраградзкіх хвабрыках папаліся ў бальшавіцкае асяродзьдзе і апынуліся пад бальшавіцкім уплывам. Калі пасылалі дэлегатаў на Ўсебеларускі Кангрэс у Менск, дык у іхны склад папалі й гэтыя беларускія «бальшавікі». Каб яны на Кангрэсе не папалі пад чужацкі ўплыў, дык імі заапякаваліся ў якасьці лідэраў Жылуновіч, Фальскі й Шантыр і трымалі іх у сваіх руках. Трэба адцеміць, што Жылуновіч, Фальскі й Шантыр паводля сваіх палітычных пераканаяньняў належылі да Беларускай Сацыялістычнай Грамады.

На Кангрэсе была невялічкая група, чалавек да дваццаці, із Смаленшчыны. Гэта былі пажылыя дзядзькі, апранутыя ў простых кажухох. Яны трымаліся спакойна і ў баку, да абласьнікоў ня прылучыліся. Ад места Смаленску было восем асобаў, а іншыя ад земства. Як я заўважыў у вапошнюю бурную ноч, яны былі зацятымі ворагамі бальшавікоў і актыўна змагаліся супраць іх.

У Менску было ўжо тады Згуртаваньне беларускай моладзі — «Вучнёўская Грамада», якая мела свайго прадстаўніка на Кангрэсе. Вучнёўская Грамада выступала з хорам і дэклямацыямі. За час працы Кангрэсу было дадзена некалькі беларускіх канцэртаў для дэлегатаў. Гэтыя канцэрты былі жывой беларускай прапагандай. Бальшыня дэлегатаў ня ведала беларускай мастацкай літаратуры і ня чула беларускага мастацкага слова. І вось гэтае жывое мастацкае слова захоплівала слухача й несла яго ў новы адроджаны сьвет, хоць яму даўно знаёмы й блізкі. З дэклямацыямі выходзіла маленькая дзяўчынка Багуся Г-к, якая дэклямавала патрыятычныя вершы Янкі Купалы: «Прарок», «Над Нёманам», «Ворагам беларушчыны» і інш. Гэтыя вершы лезьлі ў душу і надавалі чалавеку сілы й адвагі на змаганьне за волю, за права нацыі на сваю незалежнасьць, за вызваленьне з-пад чужацкай няволі. Гэтыя канцэрты далі больш, чымся найбольш палкія прамовы найлепшых прамоўцаў. Тут выходзіў і хор пад кіраўніцтвам Фальскага. Тут дэманстравалі работнікі, як аны будуць будаваць хвабрыкі й машыны для краіны; сяляне, як яны будуць паляпшаць зямлю і дабываць больш прадуктаў для краіны й на экспарт; транспартнікі дэманстравалі, як яны будуць будаваць дарогі й перавозіць тавары; матросы абяцалі пабудаваць флёту на нашых рэках Дняпры, Прыпяці, Дзьвіне і Нёмане. Усе дэманстравалі розныя атрыбуты незалежнасьці Беларусі.

Кангрэс падыходзіў к канцу. Правадыры Кангрэсу рыхтаваліся на 17 сьнежня ст. ст. абвесьціць Беларусь самастойнай і незалежнай краінай, якой будзе кіраваць беларускі народ. Гэтае паседжаньне меліся зрабіць урачыстым у Менскім тэатры. Але тут новая бяда. Згодна бальшавіцкага прынцыпу: зямля сялянам, хвабрыкі работнікам, а тэатр артыстым. У гэтым часе ў Менску прабывала нейкая расейская прыфрантовая трупа. Менскі тэатр стаўся яе собскасьцю. Колькі прэзыдыюм ні стараўся, але ніяк ня мог адваяваць памешканьня тэатру на гэтае ўрачыстае паседжаньне. Нейкая паджылая жанчына — кіраўніца гэтай трупы была няўступлівай. Яна заявіла: «Тэатр — гэта артыстых хлеб, і ніхто ня мае права адабраць у іх гэтага хлеба».

Калі паўднём прэзыдыюм пайшоў яшчэ раз у тэатр, каб усё-ж дамовіцца з артыстымі ў справе залі тэатру для вячэрняга паседжаньня Кангрэсу, пайшлі разам матросы і група моладзі ў вайсковых шынэлях. Тут яны напаткалі новую праваказыю. Збоку ў тэатры стаіць стол, а ля яго маладая астрыжаная жанчына. Гэта была ўсім ведамая эсэраўка Юр'ева, дэлегатка на Кангрэс ад групы абласьнікоў. Яна абменьвала чырвоныя мандаты дэлегатаў Кангрэсу на белыя. Чырвоныя мандаты мелі правадзейныя дэлегаты, сінія дэлегаты з дарадчым голасам, а белыя — госьці. Юр'ева забірала мандаты ў дэлегатаў, а выдавала ім білеты на праезд чыгункай дахаты. Матрос М-ха запытаўся ў Юр'евай, паводля чыйго распараджэньня яна выконвае гэтую работу? Яна не дала адказу. Тады матрос сказаў: «Зачыняй сваю крамку!» ды абярнуў стол з паперамі. Юр'ева выхапіла пісталет з-пад пальта, але ўзноў схавала. Усе пачалі сьмяяцца, а яна стала зьбіраць параськіданыя паперы і, пазьбіраўшы, выйшла.

Для ўрачыстага паседжаньня Кангрэсу тэатру не ўдалося дабіцца. Старшыня Кангрэсу Я. Серада заспакоіў моладзь, што і ў б. доме Шляхоцкага Збору можа адбыцца паседжаньне, бо месца паседжаньня Кангрэсу ня зьменіць ягонай гістарычнай вартасьці.

**(Закапчэньне ў наступным нумары)**

**Дэлегат Кангрэсу**

---

Б. Халко

## РАДЗІМА

Людзі цярпелі, прывыклі
да кіслага шчаўя,
сьлізкіх вербалозаў,
да стрэхаў,
на якія мох успоўзаў,
да бедных палёў—мачыхі спагадаў,
хоць іх чалавек касьцямі гнаіў,
потам паліў,
якія жменямі спад сахі
ірве вецер ліхі
пад неба поўнае хмарных стадаў.

А пасьля ўрасьлі
ў каменьні,
гліну,
пясок,
які радзіць ня мог
і да самага зямлі дна,
дзе ўжо нічога няма,
капаліся кіпцюрамі, жменямі
ў цаліну, ў стэп,
абы толькі ўрасьці карэньнямі
ў ськібу — чорны хлеб.

Зь бедных уласных справаў,
з лопуху,
шчаўя,
з траваў
плялі вянок — мужыцкі німб,
і йшлі па грудзе босыя,
абдзёртыя,
праставалосыя
ды зерне ад галодных вуснаў
адрывалі з думкай спакуснай
і кідалі яго ў жывот зямлі пусты,
каб праз хмыз, дзірваны і кусты
маглі надзеяй ганарыцца,
што зямля пачне каласіцца.

І гэтага поля набалелыя далі
людзі Радзімай назвалі . . .

Вольны пераклад
**П. Сыча**

---

ён, пачуўшы пра ваш прыезд, і пасылае вам на памогу 500 чалавек, ды прышлеце да яго дзеля ўмовы швагру ягонага Ўсевалада (сына Імсьціслава Раманавіча Кіеўскага). Расьціславічы адпусьцілі да яго Ўсевалада, а самі пайшлі дамоў уздоўж Волгі.

Настала вясна, стала балотна, гразка, была бездараж. Імсьціслававы воі кінулі вазы, сеўшы конна, паехалі на Пераяслаўль, думаючы, што Яраслаў тамака. 9-га красавіка на Вялікдзень Імсьціслаў прыйшоў на Гарадзішча ля ракі Соры, і сюды прыехаў да яго Кастанцін із Ростаўцамі, адны адным прысяглі вернасьць. Кастанцін баяўся пакінуць сваё места без абароны, дзеля таго Расьціславічы паслалі да Ростава Валадзімера Пскоўскага з дружынаю, а самі з Кастанцінам пайшлі да Пераяслаўля і сталі супраць яго на Хаміным тыдні. Ад палоньнікаў даведаліся, што князя Яраслава ў месьце няма: пайшоў із палкамі да брата Юр'і, зыбраўшы ўсю воласьць. Юры з двума братамі, Сьвятаславам і Валадзімерам Усеваладзічамі, ішоў на пярэймы Яраславу з Уладзіміра. Войска малодшыя Ўсеваладзічы зыбралі вялікае, Мурамцаў, Броднікаў, Гарадчан, і ўсю сілу Суздальскай зямлі; пагналі ўсіх із сёлаў; у каго ня было каня, той ішоў пехатой.

Яраслаў і Юры з братамі сталі ля ракі Кзы, Імсьціслаў і Валадзімер паставілі палкі свае ля Юр'ева, а Кастанцін Ростаўскі далей ля ракі Ліпіцы. Калі Расьціславічы пабачылі палкі Яраслававы й Юр'евы, то паслалі сотніка Ларывона сказаць Юр'ю: «Кланяемся; у нас із табою няма звады, звада ў нас зь Яраславам». Юры адказаў: «Мы з братам Яраславам адзін чалавек». Тады яны паслалі сказаць Яраславу: «Выпусьці Ноўгарадцаў і новатаржан, зьвярні воласьці ноўгарадзкія, каторыя ты захапіў, Волак, з намі памірыся й прысягні, а крыві не пралівай». Яраслаў адказаў: «Міру не хачу, Ноўгарадцаў і новатаржан у сябе дзяржу; вы далёка зайшлі і выйшлі як рыба на сушу». Калі Ларывон пераказаў гэтыя словы Расьціславічам, гэтыя паслалі да абодвых братоў із апошняй моваю: «Мы прышлі, браце княжа, Юры і Яраславе, не праліваць кроў, ня дай нам Божа бачыць кроў, валей уперад пагодзімся: дамо старшынство князю Кастанціну, і пасадзім яго ў Уладзіміру, а вам суздальская зямля ўся.» Юры адказаў на гэта паслу: «Скажы братом маім, князём Імсьціславу і Валадзімеру: прышлі вы, але куды адгэтуль пойдзіце? І брату Кастанціну: перамажы нас і ўся зямля табе».

Суздальскія князі, асьмеленыя мірнымі пасуленьнямі варагоў, бачылі ў гэтым знак слабасьці, безнадзейнага палажэньня, уладзілі чэсьць з баярамі. На чэсьці адзін стары баярын, Андрэй Станіслававіч, пачаў казаць маладым князём: «Мірэцеся, князі Юры і Яраславе! А меншыя браты ад вас залежаць; памойму лепей памірыцца і даць старшынство князю Кастанціну, няма чаго глядзець, што перад намі мала Расьціслававага роду, ды князі-ж яны ўсе мудрыя, кемныя, харобрыя; воі іхныя — Смальняне й Ноўгарадцы адважныя ў бітве, а пра Імсьціслава Імсьціславіча й самі ведаеце, што дана яму найбольшая адвага. Дык падумайце пра гэта!» Не падабалася гэта мова князём Юр'ю й Яраславу, і адзін зь Юр'евых баяр сказаў: «Князі Юры і Яраславе! Ня было таго ані за прадзедаў, ані за дзеда, ані за айца вашага, каб хто ўвайшоў вайною ў дужую зямлю Суздальскую і выйшаў зь яе цэлым; хоць-бы тут зыбраліся землі Галіцкая і Кіеўская, і Смаленская, і Чарнігаўская, і Ноўгарадзкая, і Разанская, аніяк ім ня ўстоіць супраць нашае сілы; а гэтыя палкі — ды мы іх сёдламі закідаем». Гэтая мова падабалася князём. Яны склікалі баяр і пярэдніх людзей сваіх і пачалі гаварыць ім: «І вось прыйшоў тавар вам у рукі, і будзе ваш: і коні, і зброя, і вопратка і адзежа. Хто возьме чалавека жывога, той сам будзе забіты, у каго й золатам будзе вышываная адзежа, і таго забівай, не пакінем ніводнага жывога, хто з палку ўцячэ і будзе злоўлены, такіх вешаць або крыжаваць; а пра князёў, калі лучаць у нашыя рукі, падумаем пасьлей». Адпусьціўшы людзей сваіх, князі ўвайшлі ў стан і пачалі дзяліць землі; князь Юры сказаў: «Мне, браце Яраславе, Уладзімірская зямля і Ростаўская, табе Ноўгарад, Смаленск брату нашаму Сьвятаславу, Кіеў аддай чарнігаўскім князём, а Галіч таксама наш». Малодшыя князі згадзіліся, прысяглі і напісалі ўмоўныя лісты, каторыя пасьлей знайшлі Смальняне ў табары Яраслава.

Падзяліўшы міжсобку землі, Юры зь Яраславам пачалі заклікаць варагоў на бітву да Ліпіцаў. Імсьціслаў з Валадзімерам Смаленскім паслалі па князя Кастанціна і прынучылі яго прысягнуць, што ён ад іх не адступіцца. Усю ноч войска стаяла із шчытамі, назаўтрае золкам Расьціславічы з войскам пайшлі да Ліпіцаў, куды іх клікалі на бітву. Але Юры й Яраслаў эдхінуліся ад бітвы, яны адступілі за лес і паставілі свае палкі на Аўдовай гары. Расьціславічы сьвітаньнем прыйшлі да Ліпіцаў і, бачучы, што варагі адступілі на Аўдову гару, самі сталі на праціўнай гары Юр'евай. Яны пслалі да Ўсеваладзічаў трох пасланцоў узноў зь мірнымі пасуленьнямі: «а калі ня хочаце міру, загадалі яны сказаць ім, дык адступеце далей на роўнае месца, а мы пойдзем на ваш бок; або мы адыйдзем да Ліпіцаў, а вы перайдзеце на нашае месца». Князь Юры адказаў: «Міру не хачу, ані адступаю; вы прайшлі цераз усю зямлю, дык няго-ж гэтага лесу не пярэйдзеце?» Усеваладзічы спадзяваліся на свае ўмацаваньні: яны абгарадзілі свае пазыцыі і наўкола іх панабівалі войстрага кольля.

Атрымаўшы такі адказ, Расьціславічы паслалі сваіх маладзёнаў біцца зь Яраслававымі палкамі; гэтыя біліся ўвесь дзень да ночы, але не заўзята, бо была бура і было надта сьцюдзена. Назаўтрае 21-га красавіка Расьціславічы пастанавілі не нападаць на непрыяцеля, а йсьці да Ўладзіміра, сталіцы Суздальскае зямлі, палкі іх пачалі ўжо кратацца выступаць. Бачучы гэта, палкі Юр'евы пачалі таксама зыходзіць із свае гары, думаючы, што варагі ўцякаюць; але тыя задзержыліся й адкінулі іх назад. У гэтым часе зьявіўся князь Валадзімер Пскоўскі з Ростава. Расьціславічы пачалі думаць, куды йсьці, пры гэтым Кастанцін сказаў ім: «Браты, княжа Імсьціславе й Валадзімеру! Калі пойдзем міма іх, дык ударыць на нас ззаду, ды мае людзі на бітву не ахвотныя, не агледзімся, як разыйдуцца па мястох». На гэта Імсьціслаў адказаў: «Княжа Валадзімеру й Кастанціне! Гара нам не паможа, гара нас і не пераможа; папрасіўшы на помач крыж сьвяты і сваю праўду, пойдзем на іх!» Усе згадзіліся й пачалі ставіць палкі: Валадзімер Рурыкавіч Смаленскі паставіў палкі свае з флянгу, ля яго стаў Імсьціслаў, і Ўсевалад із Ноўгарадцамі і Валадзімер Пскоўскі з Псковічамі, а ля яго стаў князь Кастанцін із Ростаўцамі. Зь няпрыяцельскага боку Яраслаў стаў із сваімі палкамі, зн. Пераяслаўскімі й Цьверскімі, ды з Мурманскімі, з Гарадчанамі й Броднікамі супраць Валадзімера й Смальнян. Юры стаў супроць Імсьціслава з усёй зямлёю Суздальскай, а малодшыя браты супраць князя Кастанціна.

Імсьціслаў і Валадзімер пачалі абасьмяляць сваіх Ноўгарадцаў і Смальнян: «Браты! — казалі яны — увайшлі мы ў зямлю дужую, дык, здаўшыся на Бога, станем моцна; няма чаго нам азірацца назад: уцякаючы не ўцячэш; забудземся, браты, пра дамы, жонкі й дзяцей; мусім-жа калі-небудзь умерці! Ідзеце, як хаця, хто пехатой, хто конна». Ноўгарадцы адказалі: «Мы ня хочам паміраць на конях; хочам біцца пехатой, як бацькі нашыя біліся на Калакшы». Ноўгарадцы, сьсеўшы з коней, распрануліся, разуліся і пусьціліся бегчы босыя на варагоў; за імі Смальняне. Тады князь Валадзімер паслаў Івора Міхайлавіча з палком, а старшыя князі і ўсе вайводы паехалі ззаду конна. Калі полк Івораў уехаў у лес, конь пад Іворам скапыціўся, што прынучыла яго прыдзержыцца; але пяхотныя, не чакаючы Івора, вышлі на пяхотныя палкі Яраслава. З крыкам: «уцякуць яны!», пачалі калоць коп'ямі і сячы сякерамі. Узапраўды Суздальцы ня выдзержалі й пабеглі. Смальняне й Ноўгарадцы білі іх, падсеклі сьцяг Яраслава, тут пасьпеў Івор із Смальнянамі і дасекліся да другога сьцягу.

Пабачыўшы гэта, Імсьціслаў сказаў Валадзімеру: «Ня дай нам, Божа, выдаць гэтых добрых людзей!» — і ўсе князі разам ударылі на варагоў цераз сваю пехату. Імсьціслаў тройчы праехаў па непрыяцельскіх палкох, сякучы іхніх вояў: была ў яго да рукі прывязаная сякера, каторай ён і сек. Князь Валадзімер не астаўся ад яго. Па якімсь часе заўзятай бітвы яны дасекліся, наапошку, да абозу Ўсеваладавічаў. Гэтыя, ба-

# Радыё «Вызваленьне» ў дзень 25 Сакавіка

Дарагія Суродзічы! Грамадзяне Беларусі!

25-га сакавіка сёлета спаўняюцца саракавыя ўгодкі абвешчаньня Незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі. Векапомным актам 25-га Сакавіка 1918 году, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі абвесьціла Беларусь незалежнай дэмакратычнай дзяржавай. У гэтай дзяржаве жыхаром Беларусі — незалежна ад роду, нацыянальнасьці і веравызнаньня — гарантаваліся ўсе дэмакратычныя свабоды і правы.

Бальшавікі — наўсуперак ясна выказанай волі нашага народу — збройнай сілай здушылі адноўленую беларускую дзяржаву, здушылі абвешчаныя ёю свабоды і правы ейных грамадзян. На месца дэмакратычнай Беларускай Народнай Рэспублікі, яны накінулі нашаму краю сваю антынародную і антынацыянальную ўладу. Створаная імі фікцыя дзяржаўнасьці — БССР — зьяўляецца у руках чырвонага Крамля толькі паслушнай прыладай, пры дапамозе якое ён сыстэматычна праводзіць сваю калянізацыйную эксплятататарскую і русыфікатарскую палітыку.

У саракавыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі, вольны голас нашага паняволенага народу — беларуская палітычная эміграцыя — лучыцца з вамі думкамі ў цьвёрдай веры, што антынародная бальшавіцкая дыктатура ня вечная — што блізкі той час, калі беларускі народ адновіць на сваёй бацькаўшчыне прынцыпы нацыянальнае свабоды, палітычнае і сацыяльнае дэмакратыі — прынцыпы, абвешчаныя векапомным актам 25-га сакавіка 1918 году.

☆

Слухайце нашую адмысловую перадачу, прысьвечаную саракавым угодкам абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

(Першая зваротка нац. гімну)

Беларускі народ мае старыя традыцыі дзяржаўнасьці. Пасьля пэрыяду паасобных княстваў, ужо ў чатырнаццатым стагодзьдзі ўсе беларускія землі задзіночваюцца ў адной дзяржаве — Вялікім Княстве Літоўскім. Тэрмін «Літва» стаўся ў той час ня толькі дзяржаўным, але і нацыянальным назовам Беларусі. Дзяржаўнай мовай Княства была беларуская: гэта была мова вялікакняскага двара і канцылярыі, на гэтай мове пісаліся граматы і законы.

Аднак, пасьля пэрыяду росквіту, вонкавыя фактары штораз больш аслабляюць Вялікае Княства Літоўскае. З аднаго боку — Польшча перацягвае на свой бок і палянізуе шляхту, што дамагаецца такіх-жа прывілеяў, якія мае шляхта ў Польшчы. Адарваўшыся ад народу, выракшыся свае мовы, шляхта стаецца самым хісткім элемэнтам ў дзяржаве. З другога боку — бесьперапынныя войны ў абароне сваіх усходніх граніцаў супраць штораз больш агрэсыўнае Маскоўшчыны падарвалі эканоміку Вялікага Княства Літоўскага. У канцы 18-га стагодзьдзя яго заваёўвае Расея. Беларускі народ, як дзяржаўная нацыя перастае існаваць.

«Гістарычны акт аб'яднаньня Беларусі з Расеяй адпавядаў кроўным інтарэсам беларускага народу . . .» «Аб'яднаньне Беларусі з Расеяй было для беларускага народу гістарычнай неабходнасьцю, карэнным пытаньнем ягонага нацыянальнага існаваньня . . .» (Історыя БССР том I, бач. 205).

Ці запраўды прымусовае далучэньне Беларусі да Расеі адпавядала «кроўным інтарэсам беларускага народу, як гэта гавораць бальшавікі?

Пасьля акупацыі Беларусі, царская адміністрацыя зачынае на далучаных землях вышэйшыя навучальныя установы. Гэтак, у 1820 годзе быў зачынены Полацкі унівэрсытэт, у 1832 — Віленскі унівэрсытэт. У 1843 годзе была зьліквідаваная мэдыцынская акадэмія; духоўная акадэмія была пераведзеная у Пецярбург. Беларуская мова выганяецца з установаў і сьвятыняў. Сьведама і сыстэматычна вынішчаюцца помнікі беларускай культуры. Урэшце, у 1864 годзе царскія ўлады забараняюць беларускі друк. Мэтадамі паліцыйнага тэрору і культурнага зьбядненьня краіны яны намагаюцца поўнасьцю зрусыфікаваць Беларусь.

І гэта бальшавікі называюць цяпер «гістарычнай неабходнасьцю, карэнным пытаньнем нацыянальнага існаваньня» беларускага народу.

Калянізатарская палітыка царскага ўраду на акупаванай Беларусі выклікае штораз большае незадаваленьне насельніцтва. Гэтае незадаваленьне вылілася ў паўстаньне 1863 году, ачоленае Кастусём Каліноўскім, які змагаўся за поўнае нацыянальнае і сацыяльнае вызваленьне беларускага народу.

Паўстаньне было крывава здушанае, Каліноўскі злоўлены і засуджаны на сьмерць.

Пасьля паўстаньня 1863 году наступілі часы чорнае рэакцыі. Але, ня гледзячы навет на забарону беларускага друку, голас лепшых сыноў Беларусі усё-ж не пераставаў гучэць. Бацька беларускага адраджэньня і ўдзельнік паўстаньня 1863 году, Францішак Багушэвіч, у прадмове да свайго зборніка «Дудка Беларуская», выдадзенага заграніцай і пашыранага нелегальна на бацькаўшчыне, папераджаў наш народ перад нацыянальнай сьмерцяй:

«Не пакідайце мовы беларускай, каб ня ўмерлі!»

Гэтае папярэджаньне, гэты заклік актуальны і цяпер — у разгары русыфікатарскага наступу, гэтым разам праводжанага бальшавікамі.

«Куды-б ты ні паступаў — у тэхнікум або інстытут — беларускай мовы і літаратуры здаваць ня трэба. Зайдзі ў любую арганізацыю, у любую ўстанову — усе справы вядуцца на расейскай мове. Родная мова амаль ня ўжываецца ні на шыльдах, ні на этыкетках . . .»

Гэта — словы беларускае настаўніцы, узятыя з савецкае прэсы.

У пачатку XX стагодзьдзя Беларусь пачынае арганізоўвацца і палітычна. На Беларусі разьвівае шырокую дзейнасьць «Беларуская Сацыялістычная Грамада».

Рэвалюцыя 1905-га году шырока ахапіла і Беларусь. Царскі ўрад мусіў ісьці на ўступкі. Закон аб забароне беларускага друку быў скасаваны. У 1906 годзе зьяўляецца першая легальная беларуская газэта «Наша Доля», а пасьля закрыцьця яе царскімі ўладамі — «Наша Ніва», якая згуляла вялізарную ролю ў беларускім нацыянальным руху. Вакол «Нашай Нівы» згуртаваліся ўсе выдатныя нацыянальныя сілы таго часу, на чале зь пісьменьнікамі Янкам Купалам і Максімам Багдановічам.

Пачынаецца Першая сусьветная вайна. Беларусь стаецца арэнай ваенных дзеяньняў. Фронт разразае яе на дзьве часткі. У акупаванай Немцамі частцы успылыхвае беларускі нацыянальны рух, а асабліва актыўнай была нелегальная арганізацыя «Сувязь незалежнасьці і непадзельнасьці Беларусі».

Ува ўсходняй частцы Беларусі толькі Лютаўская рэвалюцыя дала магчымасьць беларускаму нацыянальнаму руху выліцца ў шырэйшыя і ўжо легальныя формы.

Ужо 25-га сакавіка 1917-га году ў Менску быў скліканы першы зьезд беларускіх арганізацыяў і партыяў. Галоўнай праблемай, якая абмяркоўвалася на зьезьдзе, было пытаньне дзяржаўнасьці Беларусі.

Бальшавікі адразу занялі варожую пазыцыю да беларускага нацыянальнага руху. Гэтак званы «Комітет крестьянского Союза» на чале з бальшавіком Фрунзэ прыняў адмысловую рэзалюцыю, якая патрабавала бязьлітаснага змаганьня, як там гаварылася, зь «беларускімі нацыяналістамі».

Вялікая Беларуская Рада выдае «Грамату да беларускага народу», у якой заклікае да абароны праваў беларускага народу.

Грамата гэтая была апублікаваная ў газэце «Вольная Беларусь». Ужо у наступным нумары «Вольнай Беларусі» зьявіўся водгук Якуба Коласа на гэтую грамату. У сваім вершы «Да працы» паэт узьнёсла гаворыць:

Дапамаж Бог нам у прыгодзе!
Ні царскі біч, ні прышлы хам, —
Хай будзе лад ў сваёй гасподзе
Стварaць народ-ўладарац сам.

Такім чынам, беларускі нацыянальны рух стаў на шлях бескампраміснага змаганьня супраць арганічна чужога яму бальшавізму.

У лістападзе 1917 году Вялікая Беларуская Рада выдае «адозву да ўсяго беларускага народу», дзе вызначае тэрмін скліканьня Ўсебеларускага кангрэсу, які меў канчальна пастанавіць аб лёсе Беларусі.

«Контррэвалюцыйная Беларуская Рада», вакол якое задзіночыліся ўсе рэакцыйныя і буржуазна-нацыяналістычныя элемэнты, маскуючыся фальшывым нацыянальным сьцягам, склікала ў сьнежані 1917 году свой г. зв. Усебеларускі Кангрэс . . . На загад Савету народных камісараў Заходняй Вобласьці . . . «Усебеларускі Кангрэс быў разагнаны». (Вялікая Савецкая Энцыкляпэдыя, том 4. бач. 486).

Што-ж гэта былі за «рэакцыйныя і буржуазна-нацыяналістычныя элемэнты», **каго** разагналі бальшавікі?

Ўва Усебеларускім Кангрэсе, які адбываўся ў Менску ад 18 да 31 сьнежаня 1917 году, брала ўдзел 1872 дэлегаты з усяе этнаграфічнай Беларусі. Мандаты гэтых дэлегатаў выходзілі із **свабодных дэмакратычных выбараў.** Сярод дэлегатаў з пастанаўляючым голасам, 55 працэнтаў агульнае колькасьці належала сялянам і работнікам, 22 працэнты — працоўнай інтэлігэнцыі, і толькі 13 працэнтаў прыпадала на долю сацыяльных групаў. Голас Ўсебеларускага Кангрэсу быў аўтэнтычным голасам ўсяго беларускага народу. Разагнаньнем Кангрэсу бальшавікі намагаліся здушыць гэты голас і паказалі свой спраўдны твар у нацыянальным пытаньні.

«Роўнасьць і сувэрэннасьць народаў Расеі; Права народаў Расеі на свабоднае самавызначэньне аж да аддзяленьня і ўтварэньня незалежнай дзяржавы . . .»

Вось што абяцалі бальшавікі ў сваёй «Дэклярацыі правоў народаў Расеі», падпісанай самым Ленінам і апублікаванай ўжо 3-га лістапада 1917 году. Беларускі народ хутка здолеў перакanaцца, якая цана гэтым абяцаньням.

Усебеларускі Кангрэс быў разагнаны бальшавікамі ўначы з 30-га на 31-га сьнежаня 1917 году. Аднак Кангрэс закончыў сваю працу 31-га сьнежаня, сабраўшыся ў менскім чыгуначным дэпо. Там, пад збройнай аховай менскіх чыгуначнікаў, Кангрэс перадаў свае паўнамоцтвы ўжо раней выбранай ім Радзе Усебеларускага Кангрэсу, і даручыў ёй ажыцьцяўленьне нацыянальнае дзяржаўнасьці ў форме Беларускай Народнай Рэспублікі. Спробы бальшавікоў разагнаць і гэтае паседжаньне не ўдаліся, дзякуючы станоўчай абароне менскіх чыгуначнікаў.

Рада Ўсебеларускага Кангрэсу была прымушаная пайсьці ў падпольле. Але яна не пакідае працы ў кірунку, вызначаным Кангрэсам. У сваю чаргу, «Беларуская Цэнтральная Вайсковая Рада» падрыхтоўвае пераняцьце збройнай сілай улады ў Менску і пераданьне яе у рукі Рады Усебеларускага Кангрэсу. Гэта і сталася ў днёх 19 і 20 лютага 1918-га году.

Вось вытрымкі з дзёньніка Канстанціна Езавітава, першага нацыянальнага каманданта Менску:

9 гадзіна 20 хвілін — заняты дом былога губарнатара, варта зьнятая, на бальконе і на пляцы выстаўленыя кулямёты . . . 9 гадзіна 25 хвілін — занятая галоўная бальшавіцкая база ў гатэлі «Эўропа» — штаб Чырвонае гвардыі, штаб змаганьня з контррэвалюцыяй («ЧК»). Здабытая вялікая колькасьць стрэльбаў кулямётаў і патронаў . . . 10 гадзіна 15 хвілін — патрульныя аўтамабілі па горадзе абвяшчаюць аб пераходзе ўлады у рукі «Выканаўчага Камітэту Рады Першага Ўсебеларускага Кангрэсу».

Ад адзінаццатае гадзіны — спробы польскіх легіянэраў перашкодзіць пераняцьцю ўлады Беларусамі, зьліквідаваныя да другой гадзіны ночы».

Апошняя вытрымка разьбівае ўшчэнт цьверджаньні бальшавікоў, што быццам...

«У змаганьні супраць савецкае улады беларускія нацыяналісты апіраліся на збройную сілу белапольскіх легіянэраў корпусу Доўбар-Мусьніцкага» (Вялікая Савецкая Энцыкляпэдыя, том 4, бач. 487).

Пасьля пераняцьця ўлады, Выканаўчы Камітэт Рады Ўсебеларускага Кангрэсу выдае Першую Устаўную Грамату «Да Народаў Беларусі». У ёй гаварылася:

«. . . Беларускі народ павінен зьдзейсьніць сваё права на поўнае самавызначэньне, а нацыянальныя меншасьці — на нацыянальна пэрсанальную аўтаномію . . .

25-га лютага Менск займае нямецкае войска. Акупацыя гэтая была чыста вайсковай. Гэта дало магчымасьць цывільным установам рэспублікі на чале з новастворaным ўрадам працягваць сваю працу. 9-га сакавіка Выканаўчы Камітэт Рады выдае Другую Устаўную Грамату, якая кладзе асновы дзяржаўнай канстытуцыі Беларусі. Падаем вытрымкі з гэтага гістарычнага дакуманту:

« . . . Выпаўняючы волю Зьезду і бароночы дзяржаўныя правы народу, Спаўняючы Камітэт Рады Зьезду гэтак пастанаўляе аб дзяржаўным устроі Беларусі і аб правох і вольнасьцях ейных грамадзян і народаў.

Пункт I — Беларусь у рубяжох расьсяленьня і лічэбнай перавагі беларускага народу абвяшчаецца Народнаю Рэспублікай.

Пункт 2 — Асноўныя законы Беларускай Народнай Рэспублікі зацьвердзіць Устаноўчы Сойм Беларусі, скліканы на асновах агульнага, роўнага, простага, патаёмнага і прапарцыянальнага выбарчага права, не зважаючы на род, народнасьць і рэлігію.

Пункт 3 — Да часу, пакуль зьбярэцца ўстаноўчы Сойм Беларусі, заканадаўчая ўлада у Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Радзе Ўсебеларускага Зьезду, дапоўненай прадстаўнікамі нацыянальных меншасьцяў Беларусі.

Пункт 4 — Спаўняючая і адміністрацыйная ўлада ў Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Народнаму Сакратарыяту Беларусі, які назначаецца Радай Зьезду і перад ёй трымае адказ

Пункт 5 — У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі абвяшчаецца свабода слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў; бязумоўная свабода сумленьня, незачэпнасьць асобы і памешканьня.

(Заканчэньне на 8-ай бачыне)

---

чучы, што воі Расьціславічаў жнуць іхныя палкі, як каласы, пабеглі зь меншымі братамі і мурамскімі князямі. Тут князь Імсьціслаў закрычэў: «Браты Ноўгарадцы! Ня гальцеся на тавар, глядзеце бітвы, а то яны зьвернуцца й пагоняць нас».

Перамога гэтая была 21-га красавіка. Ноўгарадцаў было пяць забітых і 60 узятых у палон. Із Смальнян быў толькі адзін чалавек забіты. У Юр'я было 17 сьцягоў, 40 трубаў і гэтулькі-ж бубнаў, у Ярослава было сьцягоў 13, трубаў і бубнаў 60. «Ня дзесяць было ў іх забітых, — зазначае летапісец — ня сто, але тысяча тысячамі, а ўсіх забітых — 9.233 чалавекі; чутны быў крык жывых, не да сьмерці забітых; ня было каму хаваць, а шмат хто ўцякаючы, утануў у рацэ, а іншыя раненыя, зайшоўшы у пустое месца, умерлі бяз помачы; жывыя ўцяклі — адныя да Ўладзімера, другія да Пераяслаўля, іншыя да Юр'ева.

Князь Юры ўцякаў зь Ліпіцкае бітвы да свайго сталічнага места Ўладзіміра. Ён прыбег на чацьвертым кані, замарыўшы трох, у ваднэй сарочцы. Ён прыехаў каля паўдня, а бітва была нараніцы. У Ўладзіміры заставаўся адзін бяззбройны народ, папы, манахі, жонкі й дзеці. Пабачыўшы здалёку, што хтось імчыцца да іх на кані, яны ўсьцешыліся, думаючы, што гэта пасланец ад князя зь перамогаю. «Нашы перамагаюць!» — крычэлі яны. І ўраз прыяжджае сам князь Юры адзін, пачынае езьдзіць наўкола места, крычыць: «Умацоўвайце сьцены!» У іх узрушыў гэты крык, і весялосьць зьмянілася смуткам, узьняўся плач. Увечары пачалі прыбягаць і простыя людзі: адзін прыбяжыць ранены, другі голы; гэтак было ўсю ноч. Назаўтрае нараніцы Юры склікаў народ і пачаў гаварыць: «Браты Ўладзімірцы! Зачынімся ў горадзе, мо адаб'ёмся ад іх». Яму адказалі: «Княжа Юры! Зь кім нам зачыніцца? Браты нашыя выбітыя, іншыя раненыя, засталыя ўцяклі бяз зброі, зь кім нам бараніцца?» Юры сказаў, «Усё гэта я сам ведаю; толькі ня выдайце мяне брату Кастанціну і Расьціславічам, каб я мог самахоць выйсьці з гораду». Гэта Ўладзімірцы яму абяцалі.

Расьціславічы засталую часьць дня заставаліся на месцы бітвы. Калі-б яны пагналіся за няпрыяцелям, дык не ўцяклі-б Юры і Ўсевалад, дый Уладзімір быў-бы ўзяты зьнячэўку. Але Расьціславічы ціха прышлі да Ўладзіміра і пачалі думаць, скуль-бы ўзяць яго. Ноччу загарэўся княжы двор, і Ноўгарадцы хацелі скарыстаць з гэтага дзеля штурму, але Імсьціслаў ня пусьціў іх; за дзень узноў загарэлася ноччу ў горадзе, і Смальняне прасіліся ўзяць яго, але князь Валадзімер удзержыў іх. Тады князь Юры выслаў да аблягаючых князёў з просьбаю: «Не хадзеце на мяне сяньня, заўтра сам пайду з гораду». І ўзапраўды назаўтрае рана нараніцы выехаў ён з гораду, пакланіўся князём Імсьціславу і Валадзімеру Рурыкавічу й сказаў: «Браты! Прашу вас даруйце мне жыцьцё і хлебам мяне накармеце, а брат мой Кастанцін у вашай волі». Ён даў ім багатыя дары; яны зь ім пагадзіліся, пагадзілі яго й з братам Кастанцінам, гэтаму далі Ўладзімір, а Юры мусіў здаволіцца Радзілавым Гарадцом ля Волгі. Уладыка, князіня і ўвесь двор ягоны селі без адвалокі ў лодкі і паплылі ўдол па Клязьме, а сам князь Юры, зайшоўшы перад ад'ездам у саборную царкву, укляк ля бацькаўскага гробу і із сьлязьмі сказаў: «Пакарай, Божа, брата майго Ярослава, што давёў мяне да гэтага».

Уладзімірцы — духавенства й народ выйшлі з крыжам на пярэймы новаму князю Кастанціну. Гэты абдарыў князёў, Смальнян і Ноўгарадцаў шмат якімі дарамі і прывёў Уладзімірцаў да прысягі сабе.

Яраслаў таксама ўцёк да Пераяслаўля на пятым кані, а чатырох замарыў, і зачыніўся ў горадзе. Ня досыць было яму, кажа летапісец, крыві людзкой, мала яшчэ, відаць, выбіў ён людзей у Ноўгарадзе, і ў Таржку, і на Валоку; гэтага было яму ўсё мала. У Пераяслаўлі былі ноўгарадзкія й смаленскія купцы дзеля гандлю; убегшы ў места, Яраслаў загадаў паўкідаць іх у скляпы, дзе іх шмат падушылася; іншых загадаў ён заперці ў цеснай хаце, і тут умерла 150 чалавек; толькі пятнаццацёх Смальнян, запертых асобна, засталося жывых.

Яраслаў заперся ў Пераяслаўлі, але калі Расьціславічы з Кастанцінам крануліся йсьці туды, ён спалохаўся й паслаў прасіць міру, наапошку й сам прыехаў да брата Кастанціна і маліў ня выдаваць яго Імсьціславу ані Валадзімеру Смаленскаму. Кастанцін пагадзіў яго зь Імсьціславам яшчэ па дарозе, і калі князі прыйшлі да Пераяслаўля, то Яраслаў абдарыў іх і вайводаў багатымі дарамі. Імсьціслаў, узяўшы дары, паслаў па Ноўгарадцаў і Смальнян, каторыя засталіся жывыя ў Суздальскай зямлі. Імсьціслаў гатаваў свайму зяцю іншую, маральную кару. Ён узяў ад Яраслава ягоную жонку, дачку сваю; гэты няраз пасьля гэтага пасылаў да яго з просьбаю аддаць яму жонку, але Імсьціслаў не згадзіўся [17].

Усе Суздальцы тварылі адно Суздальскае княства, дзеля таго яны ўсёй сваёй цэласьцю выступалі збройна супраць Беларусаў. Ня тое Беларусы, у каторых было колькі асобных гаспадарстваў, у іх паўставалі некаторыя апрычоныя інтарэсы. Палачане й Беларусы Турава-Пінскага княства, як тэрытарыяльна далёкія ад Суздальшчыны, не патрабавалі ваяваць із ёю за справы сваіх гаспадарстваў. Із Суздальшчынаю ваявалі засталыя беларускія гаспадарствы, рэдка адзіночачыся міжсобку, а звычайна паасобку, кажнае тым балей, чым бліжэй геаграфічна ляжала да Суздальшчыны. Значыцца, ня ўсе беларускія сілы прымалі ўдзел у збройным ходаньні із Суздальшчынай. Але дарма! У першай чэцьверці XIII стг. Суздальшчына была канчальна пераможаная Беларусамі. І трэба было сыстэматычнай татарскай памогі Маскоўцам, як сваім шчодрым даньнікам, каб яны падужэлі і, выкарыстоўваючы войны Беларусі з магутнай Турэччынаю, у вапошняй чэцьверці XV стг., пачалі перамагаць Беларусаў. Прыяла гэтаму яшчэ няўмелая палітыка Ягайлавічаў.

Вялікія ваенна-баявыя здольнасьці Беларусаў, што так бліскуча праявіліся ў Ліпніцкай бітве, неадноўчы праяўляліся й пасьлей, асабліва-ж пад Грунвальдам у 1410 г., дзе тры смаленскія палкі адны выдзержылі выцень усяго крыжацкага войска; надзвычайна праявіліся ў Лісоўшчыкаў, што на пачатку XVII стг. уздоўж і ўпоперак перайшлі Маскоўшчыну і зьвярнуліся зь вельмі малымі стратамі.

---

[1] Соловьев. История России с древнейших времен, II, выд. 4-ае, Масква, 1869, бач. 251. На бач. 239, 240, 241 і наст. гэтае кнігі Салаўёва чытач знойдзе некаторую характарыстыку Суздальцаў. Далей цытую, як «Соловьев».

[2] Пра беларускасьць Вяцічаў гл. Ян Станкевіч. Савецкае хвальшаваньне гісторыі Беларусі. Інстытут для Вывучэньня СССР, Мюнхэн, 1956, бач. 21—87.

[3] М. Довнар-Запольский. Исторические судьбы Верхнего Приднепровья и Белоруссии. Россия, т. IX, СПб., 1905, бач. 59.

[4] М. Довнар-Запольский. Очерк Истории Кривичской и Друговичской земель до конца XII ст., Кіеў, 1891, бач 81. Далей цытуецца, як Д.-Запольский, Очерк».

[5] А. Кабанов. Замечательные населенные места и местности. Россия, т. IX, бач. 364.

[6] П. Голубовский. История Смоленской земли до начала XV в. Известия Киевского университета, 1894, бач. 262—263. Далей цытуецца, як «Голубовский».

[7] Прыр. там-жа.

[8] Прыр. там-жа.

[9] Д. Запольский. Очерк, б. 98 і 108; Голубовский, 266.

[10] Голубовский, 222.

[11] Д.-Запольский, Очерк, 133.

[12] Голубовский, 277. Удзеламі зваліся княствы, залежныя, прынамся ў прынцыпе, ад свайго вялікага або галоўнага княства, зн. княства ўдзельнае, гэта — княства васальнае.

[13] Соловьев, II, 329.

[14] Соловьев, II, 325.

[15] Там-жа, 326.

[16] Там-жа, 327.

[17] Ліпіцкая бітва апісаная тут паводля 4-га Ноўгарадзкага летапісу (ПСРЛ, т. IV, ч. 1, вып. 1, Петраград, 1915, бач. 186—197) паводля Соловьева, II, і паводля Д. Аверкиева (Живописная Россия, I—I, 426—432). Часта аўтар толькі перакладаў з гэтых працаў.

**ЯН СТАНКЕВІЧ**

